

№ 40 (57)

Кастрычнік 2004 года

# Краязнаўчая газета

Выдаецца з красавіка 2003 года

## У нумары:





1990-я. Беларускае вяселле

## У Лідзе хто хоча вучыцца па-беларуску, той і можа

***У школах Беларусі ў 2002/2003 навучальным годзе 26,3 працэнта дзяцей навучалася па-беларуску. А між іншым, паводле стандартаў ЮНЕСКА, калі на нейкай мове навучаецца менш за 30 працэнтаў вучняў, дык яна трапляе пад пагрозу знікнення. ЮНЕСКА даследуе праблему, таму што думае аб будучым.***

У Лідзе сітуацыя з беларускамоўным навучаннем не нашмат лепшая за іншыя гарады. Аднак тут яшчэ ў многіх школах захаваліся трывалыя традыцыі беларускамоўнага выкладання. Тычыцца гэта і школы № 17. Пазалетась беларускі клас тут сабрала Вольга Іванаўна Хацук. Летась беларускага першага класа не было. Сёлета такі клас арганізавала Людміла Віктараўна Сарвары. Адкрыццю класа папярэднічала кампанія ў лідскай прэсе. Людміла Віктараўна правяла сацыялагічнае апытанне і размясціла вынікі яго ў газеце «Прынёманскія весткі». Вось якое стаўленне выказалі да беларускамоўнай адукацыі жыхары Ліды.

**Святлана Леанідаўна Пастухова, апаратчыца ААТ «Лакафарба»:** «Калі паўстала пытанне аб тым, што мая дачка Саша будзе навучацца ў беларускамоўным класе, то я крыху спалохалася. А як яна будзе далей, пасля школы, вучыцца, бо ўсе прадметы ў школе выкладаюцца па-беларуску, ці не будзе ёй цяжка? Але з цягам часу, калі яна пачала вучобу, зразумела, што ўсе мае страхі былі надуманымі. Пры паступленні ў педкаледж таксама не было перашкод з-за таго, што вучылася на беларускай мове. Я лічу, што мы, беларусы, павінны ведаць сваю мову».

*(Заканчэнне на стар. 2)*

### Нашы віншаванні

*Сардэчна віншуем з саноцаноўнеаным юбілеем Кацярыну Рыгораўну Папову са старажытнага Турава – чалавека, горача ўлюбёнага ў родны край, настаўніцу беларускай мовы, паэтку, духоўнага натхняльніка творчасці і выдання кніг літаратараў Тураўшчыны, дзейнасці тэатра фальклору «Дрыгавічы», а таксама актыўнага аўтара «Краязнаўчай газеты»*

*Шаноўная Кацярына Рыгораўна, цёпла жадаем Вам здароўя, добрага настрою і далейшага плёну Вашай шматграннай руплівасці!*

*ГА «Беларускі фонд культуры», «Краязнаўчая газета»*

**Кошт на 1 месяц:**
індывідуальны – 3 320 рублёў;
ведамасны – 3 439 рублёў

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны – 63320;
ведамасны – 633202

*Падпіска ў рэдакцыі* – 2 520 рублёў на месяц

# Зборная субота

## З поля ўсё сабралі, да вяселляў рыхтавацца сталі

***Благаславі, Божа, вянок віці,***
***Нашым маладым доўга жыці.***
***І з суботы на нядзелю,***
***А з нядзелі на весь век.***

Зборная субота – абрад, найбольш пашыраны ў паўднёвым рэгіёне Беларусі. Асноўны рытуал Зборнай суботы – віццё вянка. Гэта развітальны вечар маладой са сваімі сяброўкамі, апошні вечар яе дзявоцтва.

Па-рознаму называлі Зборную суботу: дзявічнік, паненскі вечар, вяночкі, дзявочыя заручыны. У маладога развітальны вечар быў больш кароткі і праходзіў менш урачыста. Дый адбываўся ён не паўсюль.

З абрадам Зборнай суботы звязаны цэлы цыкл песень, вельмі сумных і жаласлівых, бо гэта развітанне з сяброўкамі, бацькамі і вольным жыццём.

*Астатня настала субота,*
*Рана Ніначка пайшла на работу,*
*А з паўдня па сялу пахадзіла,*
*К сабе дзевачак запрасіла.*

Дзяўчаты, запрошаныя «віць вянок», прасілі маладую паказаць ім «дарожку па кветкі» ў яе садок. Пры кожным доме, дзе жыве дзяўчына, па існуючай на Беларусі традыцыі абавязкова павінен быць «садок» (палісаднік, гародчык). Там саджала дзяўчына кветкі, што былі патрэбны для шлюбнага вянка – руту, мяту, барвінак, каліну, лілею, ружу. Калі ж якой кветкі не хапала ў яе садку, то яна ішла (абавязкова з хлебам) да суседзяў:

*Няслава, братка, няслава:*
*На вянок руты не стала.*
*Давіце, дзеванькі, вянок ядлоўцам,*
*Не быць табе, братка, малойцам.*

Падрыхтаваўшы кветкі для вянка, хор дзяўчат звяртаўся да маці, каб яна благаславіла віць вянок, і жадалі дабра: «Дай, Божа, маладым доўга жыць», «Дай, Божа, усім дабра на два двары», «Дай, Божа, добрай долі».

Значная колькасць песень Зборнай суботы апавядае пра тое, што маладой нядоўга заставалося быць у маці – «апошнюю ночку начуе». Вось чаму, сабраўшы сябровак і «сеўшы вышэй за ўсіх, схіліла галоўку ніжэй за ўсіх», думала думу больш за ўсіх, як будзе вымушана дагаджаць чужой сям'і, як давядзецца свякроўку зваць мамкай.

Звіўшы вянок, дзяўчаты клалі яго на талерку, пасыпаную жытам, і перадавалі маці маладой. Маладая просіць маці развіць вянок, каб яшчэ трошкі пабыць дома. Маці ж адмаўляе ў гэтым:

*Мне, дачушка, вянок не развіць,*
*Табе, дзіцятка, тут не жыць.*

У Зборную суботу маладую садзілі на пасад (дзяжу, пакрытую кажухом), расчэсвалі ёй валасы і ў апошні раз запляталі ў адну касу, якую расплялі ў нядзелю.

*Сягоння ў нас паненскі*
*Вечар настаець,*
*Паследні раз млада Манечка*
*Коску заплятаець.*

У час застолля дзяўчаты спявалі шмат песень развітальнага характару, у якіх апавядаецца пра расстанне з «дзявоцкім пагуляннем, паненскім красаваннем, жартаваннем»:

*Хоць і будзеш гуляці –*
*Не ў руцвяным вяночку,*
*Не ў дзявочым станочку.*

Зборная субота заканчвалася развітаннем сябровак з маладой.

*Ужо мы, дзеванька, ідзём,*
*Табе дабранач даём.*
*Не той дабранач, што начаў,*
*Да той дабранач, што на весь век.*

***Мікола КОТАЎ, фалькларыст***





*Сур'ёзна пра кур'ёзнае*

### Не ганіце курэй ад сметніка...

Пэўна ж, яны ведаюць, чаму ў ім корпаюцца. Да прыкладу, адзін клерк з Бразіліі не знайшоў лепшага месца, дзе схаваць буйную суму грошай, акрамя як у кардзіне для смецця ў сваім офісе. У выніку наяўныя з лёгкай рукі прыбіральшчыцы апынуліся на сметніку.

Як расказаў Альвара Вейнэ з невялікага бразільскага горадка Фарталецэ, ён падумаў, што кардзіна для смецця – ідэальнае месца для таго, каб схаваць грошы ад чужых вачэй. У агульнай суме ён схаваў у гэтым зацішным месцы 18 тысяч наяўнымі і чэкамі. Але ж прыбіральшчыца ў офісе кампаніі, дзе працуе Вейнэ, і думаць не думала, што сметніца – адзін з аб'ектаў яе працы – можа служыць яшчэ і тайнікам. Таму яна, не задумваючыся, выкінула ўсё, што знаходзілася ў кардзіне. Цяпер небарака Вейнэ звяртаецца да таго, хто знайшоў яго грошы, з просьбай вярнуць іх за ўзнагароджанне ў 3,6 тысячы даляраў.

### ...Лорда суправаджайце да звалкі

А трэцяй гадзіне ночы на пункт цэнтралізаванай аховы Кастрычніцкага (г. Віцебск) аддзела Дэпартамента аховы МУС Рэспублікі Беларусь паступіў сігнал «трывога» з гандлёвага кіёска, які размешчаны каля дома 174 па вуліцы Гагарына. Пад'язджаючы да аб'екта, супрацоўнікі аховы групы затрымання ўбачылі, як два хлопцы, апранутыя ва ўсё цёмнае, пабеглі ў бок прыватнага сектара.

Праз некаторы час шапаценне ў агародзе бліжэйшага дома прыцягнула ўвагу супрацоўніка аховы. Прамень ліхтарыка асвяціў хлопца, які ляжаў на зямлі. Гэта быў 19-гадовы непрацуючы жыхар горада Віцебска Г. Міліцыянер-кінолаг, які прыбыў на дапамогу, паставіў на след службовапошукавага сабаку па мянушцы Лорд, які тут жа павярнуў да звалкі. Там са смецця вылез мясцовы жыхар О., 18-гадовы навучэнец ПТВ. Менавіта пры спробе гэтых злачынцаў абрабаваць кіёск і пад'ехалі супрацоўнікі аховы.




*Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА*



## У Лідзе хто хоча вучыцца па-беларуску, той і можа

(Заканчэнне. Пачатак на стар. 1)

**Вікторыя Нікіценка, вучаніца 10 класа СШ № 17:** «На працягу 9 гадоў я з'яўлялася вучаніцай беларускамоўнага класа і не шкадую аб гэтым. На мой погляд, у нейкай ступені беларуская мова лягчэйшая за рускую. Шмат абітурыентаў пры паступленні ў навучальныя ўстановы выбіраюць для здачы экзаменаў беларускую мову. Пры пераходзе ў рускамоўны клас я хвалявалася, што сутыкнуся з цяжкасцямі. Але гэтага не адбылося, і мне было вельмі проста, бо ў школе вывучаюцца дзве мовы на аднолькавым узроўні».

**Вадзім Сарвары, вучань 6 класа СШ № 17:** «У першы беларускамоўны клас СШ № 17 я прыйшоў пасля рускамоўнага дзіцячага садка № 7. Ніякіх цяжкасцей у навучанні не было. З упэўненасцю магу сказаць адно: моўную праблему ствараюць дарослыя. Для дзяцей моўнай праблемы не існуе, і выконваць пісьмовыя работы на беларускай мове значна лягчэй. Родная мова для кожнага народа – гэта як сцяг для войска. Знік сцяг, і вайсковая часць губляе сваю значнасць. Яна расфарміроўваецца. Паважаць мову – значыць паважаць людзей, якія сеюць і збіраюць для нас хлеб».

**Аляксандра Пастухова, навучэнка школьнага аддзялення Лідскага педагагічнага каледжа:** «Я вучылася ў беларускамоўным класе СШ № 17 дзевяць гадоў. Вучылася там па сваім жаданні. Лічу, што навучанне на беларускай мове не выклікае цяжкасцей і не перашкаджае ў далейшым жыцці. У 2003 годзе я абрала для сябе прафесію настаўніка пачатковых класаў і паступіла на бясплатнае аддзяленне Лідскага педагагічнага каледжа. У гэтай навучальнай установе больш шасць прадметаў выкладаецца на беларускай мове. Вучуся без цяжкасцей, атрымліваю павышаную стыпендыю. Наведваю беларускі літаратурны гуртоk, які ўзначальвае Міхась Іванавіч Мельнік. З даўніх часоў беларускі народ дабіваўся права на самавызначэнне, права на прызнанне беларускай мовы. Цяпер, калі мы маем такую магчымасць, нельга адмовіцца ад роднай мовы і культуры».

**Андрэй Янушэўскі, вучань 10 класа СШ № 17:** «Мова – гэта жывы гістарычны ланцужок. А ён ужо як павуцінка. У Ларысы Геніюш ёсць такія словы: «Як жыць, дык жыць для Беларусі, а без яе – зусім не жыць». Давайце жыць для Беларусі, а яна патрабуе больш уважлівых адносін да мовы. У гэтым годзе я скончыў 10-ты беларускамоўны клас».

**Сама Людміла Віктараўна гаворыць:** «З гісторыі ведаем пра лёсы розных народаў, якія, страціўшы родную мову, відазмяніліся і зніклі з аблічча Зямлі, перасталі існаваць у Сусвеце. Многія мовы Паўночнай Амерыкі, Паўночнай Еўразіі, Аўстраліі сталі ці становяцца мёртвымі. Асаблівую ролю ў паскарэнні гэтага працэсу іграе выкарыстанне народнай мовы ў школах, каледжах і іншых сярэдніх і вышэйшых навучальных установах.

Я аптымістка па натуры. І гэты аптымізм умацоўваецца, калі зрэдку наведваю тэатр імя Янкі Купалы, чытаю беларускіх класікаў, слухаю сапраўды беларускія гурты, калі бываю на сталічным чыгуначным вакзале, дзе беларускамоўнае афармленне нікому не ставарае нязручнасцей, а з'яўляецца візітоўкай краіны. Кажуць, з вакзала пачынаецца дарога. Можа, і «паедзем»?!»

Пасля звароту ў газеце, заручыўшыся маральнай падтрымкай гарадскога аддзела адукацыі, які сёння ўзначальваць былы дырэктар СШ № 17 Г. Я. Берхерыт, Людміла Віктараўна пайшла па кватэрах будучых першакласнікаў і перакanала бацькоў сямі маленькіх беларусаў, што ім будзе лепш вучыцца менавіта ў беларускамоўным класе. Вось іх імёны: Жыгала Ліза, Каневіч Валерыя, Каневіч Ксенія, Кажанеўская Карына, Палякова Вікторыя, Расолава Вольга, Шыкуць Максім.

1 верасня ў 1-м «Е» класе СШ № 17, як і ва ўсіх іншых класах адбыўся першы ўрок «Беларусь – наша Радзіма». Як прыгожа гучалі словы «Беларусь», «Мінск», «бусел» і шмат іншых на гэтым уроку, на якім, акрамя першакласнікаў, прысутнічалі іхнія бацькі, а таксама старшыня Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ Станіслаў Суднік, сябар ТБМ, выкладчыца беларускай мовы і літаратуры Лідскага педкаледжа Яніна Вацлаваўна Будзішка і інш.

***На адзін беларускі клас стала больш, але чаму толькі на адзін? Што перашкаджае адкрываць такія класы ў іншых школах? Сёння ў Лідзе гэтаму перашкод няма. Справа за настаўнікамі, бацькамі і за лідскімі структурамі ТБМ, за іх растлумачальнай і арганізацыйнай працай.***

**Яраслаў ГРЫНКЕВІЧ,**
**«Наша слова» (скарочана)**

### Лікаўзнесены герб

Тут мы маем на ўвазе лікі святых. Так, жыхары Кобрына амаль шэсць гадоў думалі, спрачаліся, што ўзяць за аснову новага герба горада. І ўрэшце звярнулі ўвагу на выяву Святой Дзевы Марыі з нованароджаным Хрыстом і яе маці Ганны на пячатцы, падараванай Кобрыну ў 1589 годзе разам з магдэбургскім правам, сімволіку XIX стагоддзя. Гэты герб не толькі зацверджаны Геральдычным саветам пры Адміністрацыі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, але і ўхвалены мітрапалітам Філарэтам.

Герб і флаг Кобрына ўжо асвечаны ў прысутнасці некалькіх тысяч гараджан. Цяпер Кобрын з'яўляецца другім пасля Мінска ў краіне горадам, у гербавай сімволіцы якога мы бачым лікі святых, што як бы абавязвае жыхароў да пэўнай дабрачыннай адказнасці.

Як менавіта гэтых ж крытэрыяў прытрымліваецца і мастачка Ядвіга Сянько. Піша яна ў асноўным на біблейскія тэмы. Скончыла ў свой час факультэт выўленчага мастацтва ва універсітэце Масквы, атрымала блаславенне мітрапаліта Мінскага і Слуцкага Філарэта, Патрыяршага Экзарха ўсяе Беларусі. Калекцыю з 36 яе карцін «Беларускі сучасны іканапіс» бачылі ўжо ў Маладзечне, Валожыне, Старых Дарогах і Слуцку.

Згодна з рашэннем Рэспубліканскай экспертнай камісіі па размеркаванні культурных каштоўнасцей, вернуцца ў храмы, цэрквы, музеі і так званыя рарытэты культавага ўжытку, затрыманыя мытнымі органамі Беларусі, – трыццаць пяць абразоў, складзень і крыж XIX – пачатку XX стагоддзяў. А вось манеты выпуску пачатку XX стагоддзя перададзены ў Смаргонскі раённы краязнаўчы музей і музей горада Светлагорска. Унікальную кнігу «Сімфонія ці алфавітны паказальнік да Свяшчэннага Пісання», выдадзеную ў 1925 годзе, атрымае Гомельскі абласны краязнаўчы музей.

*Іван ГРЭБЕНЬ*

## Смуткуем разам з усімі

***Беларуская літаратура, уся наша культура ў вялікім смутку: у ноч з 13 на 14 кастрычніка 2004 года памёр народны пісьменнік Беларусі Іван Пятровіч Шамякін.***

Іван Шамякін нарадзіўся 30 студзеня 1921 года ў вёсцы Карма Добрушскага раёна, змаладу рыхтаваўся да мірнай прафесіі будаўніка, але па грамадскім абавязку ў 1941 годзе ўзяў у рукі зброю і з ёю прайшоў усю Вялікую Айчынную вайну.

Пабачанае і перажытае падштурхнула ўзяцца за пяро, і ён яшчэ ў Германіі піша аповесць «Помста», якая ў 1945 годзе пабачыла свет у часопісе «Полымя». Зразумеўшы, што далей яго асноўнай прафесіяй стане літаратурная праца, Іван Пятровіч пасля перамогі паступае вучыцца ў Гомельскі педагагічны інстытут і заадно пачынае працаваць настаўнікам. З 1947 года – цалкам жаданая творчасць: у выдавецтве, галоўным рэдактарам альманаха «Советская Отчизна» (сёння «Нёман»), у Саюзе пісьменнікаў і за сваім рабочым сталом.

Першы яго раман «Глыбокая плынь» прынёс яму прызнанне і вядомасць – вялікую чытацкую ўвагу і тагачасную Сталінскую прэмію, што натхніла пісьменніка на новыя творы – цыкл з пяці аповесцей «Трывожнае шчасце», раманы «Крыніца», «Сэрца на далоні», «Атланты і карыятыды», «Вазьму твой боль» і іншыя. Гэта яшчэ больш павысіла да яго цікавасць – за актуальнасць вылучаных праблем, вострасюжэтнасць, яркасць вобразаў.

Апошнія дзесяцігоддзі Іван Шамякін прысвячаў сваю творчасць розным накірункам – новаму асэнсаванню ваенных падзей («Гандлярка і паэт»), часу грамадзянскай вайны («Петраград–Брэст), далёкай нашай гісторыі («Вялікая княгіня Ганна») і новым перыпетыям сучаснасці («Слаўся, Марыя», «Пошукі прытулку»). Ён аўтар 13 раманаў і звыш 30 аповесцей, шматлікіх п'ес, сцэнарыяў для тэатра і кіно, апавяданняў і артыкулаў, інтэрв'ю, мемуараў, што ўсё разам складае не адзін дзесятак тамоў, з якіх многае перакладзена на шматлікія мовы свету. Яго творы выдадзены шматмільённымі тыражамі.

Кіпучай энергіі Івана Пятровіча можна было толькі пазайздросціць: ён доўгі час працаваў на адказных пасадах у Саюзе пісьменнікаў Беларусі, у беларускай энцыклапедыі, быў дэпутатам усесаюзнага і рэспубліканскага ўзроўню, узначальваў Вярхоўны Савет БССР, Беларускі камітэт абароны міру, што вывела яго ў лік нашых буйных грамадскіх дзеячаў, вучоных (за навуковы ўклад у энцыклапедычную справу быў абраны акадэмікам Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі).

Івана Шамякіна, на вялікі жаль, ужо няма разам з намі, але пакуль будзе жыць Беларусь і беларускае слова, ён застанецца прыкладам сваімі мастацкімі творамі і годнымі грамадзянскімі якасцямі – працавітасцю, чалавечнасцю, узорам сем'яніна.

***ГА «Беларускі фонд культуры», «Краязнаўчая газета»***



**На фота: Іван Шамякін з сябрамі каля музея Я. Коласа**







Святая крыніца на Магілёўшчыне

Фота Міхася КЕНЬКІ

# Вёска мая светлая, родная мая...

***Вёска Свяцілавічы з'яўляецца адным са старажытнейшых населеных пунктаў Прыдруцкага краю. Узнікшы ў XVI стагоддзі, яна атрымала сваё прыгожае найменне ад рачулкі Свяцілкі, якая ўпадае ў Вабіч.***

Свяцілавічы пасля правядзення адміністрацыйнай рэформы 1565–1566 гг. увайшлі ў склад Аршанскага павета Віцебскага ваяводства Вялікага княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага. Паводле дадзеных гісторыка Л. Насевіча, Свяцілавічы адносіліся да Галоўчынскага маёнтка і належылі князю Шчаснаму Яраслававічу Галоўчынскаму. Князь памёр у 1610 г., яго спадчыннікам стаў сын Ян. Пасля 1630 г., даты смерці Яна, вёска перайшла ў валоданне да яго жонкі Галены з роду Валовічаў. Крыху пазней яна прадала маёнтак удаве Мікалая Слушкі – Альжбеце і яе сыну Аляксандру.

У 1772 г., падчас першай інкарпарацыі земляў Рэчы Паспалітай у расійскую імперыю, Свяцілавічы ўваходзілі ў склад Магілёўскай эканоміі Аршанскага павета Магілёўскай губерні.

Напрыканцы XVIII стагоддзя ў вёсцы налічвалася 40 двароў і 289 жыхароў. Крышачку пазней населены пункт увайшоў у склад Магілёўскага павета, у пачатку XX стагоддзя – Нежкаўскай воласці, у 1924 г. – Шылавіцкага, а затым Лебядзянкаўскага сельсаветаў.

Здаўна Свяцілавічы былі вядомыя як цэнтр ганчарнага рамяства. Жыхары выраблялі посуд, цэглу, дахоўку.

Прыгнятала свяцілаўцаў малазямелле. І таму многія з іх станавіліся адыходнікамі, перасяляліся ва ўсходнія раёны Расійскай імперыі. Вядома, для прыкладу, што ў студзені 1878 г. больш за 40 вяскоўцаў звярнуліся ў Магілёўскае павятовае ўпраўленне аб перасяленні іх у Томскую губерню.

Сама вёска нібыта складаецца з дзвюх частак: Свяцілавічы першыя і Свяцілавічы другія. Першыя належылі розным панам, з якіх вядомы паны Ашмян і Войнавы. А таму жыхароў гэтай часткі вёскі па пану называлі Ашмянцы, а жыхароў другой па прозвішчы пана Шпыркі – Шпырчанцы. Ашмянцы і шпырчанцы часта спрачаліся між сабой і нават біліся.

У Свяцілавічах першых на самым высокім месцы стаяла сядзіба апошніх паноў Войнавых. Яны, дарэчы, пабудавалі і вадзяны млын, выкапалі сажалку, у якой разводзілі рыбу.

Пасля рэвалюцыі зямельныя валоданні раздалі сялянам. Паколькі сама пані была добрай і лаяльна адносілася да людзей, яе не выслалі з вёскі, а выдзелілі пакой ва ўласным доме. У 1922 г. хтосьці паквапіўся на багацце пані, і яе забілі.

Праз нейкі час у сядзібе Войнавых арганізавалі школу, якая праз некалькі гадоў згарэла.

Напрыканцы XVIII – пачатку XIX стагоддзяў сяляне пачалі будавацца ўверх па цячэнні Свяцілкі і назвалі гэту частку вёскі Свяцілавічы другія. Валодалі імі паны Шпыркі, якія мелі 820 дзесяцін зямлі. Сваю сядзібу яны таксама пабудавалі на кургане, а дом нагадваў сабой жыллё Войнавых.

Сям'я апошніх Шпыркаў складалася з чатырох чалавек: Людвіка і яго трох сясцёр – Марыі, Эміліі і Софіі. Усе яны прынялі актыўны ўдзел у паўстанні 1863 года, за што былі вывезены ў Сібір. Людвік адбываў пакаранне на катаржных работах 8 гадоў. Сёстры на радзіму вярнуліся раней за яго. Маёнтак іх аказаўся канфіскаваны. Давялося судзіцца, каб вярнуць сваё. І гэта зрабіць ім удалося-такі, бо, як высветлілася, маёнтак ім належыў па лініі маці, а не бацькі.

Пасля адбыцця пакарання Людвік вельмі доўга дабіраўся дахаты. Аднойчы ён завітаў да ксяндза і папрасіўся пераначаваць. Той адмовіў нядаўняму катаржаніну. Пасля гэтага выпадку Людвік страціў веру ў Бога. Сёстры вельмі гаравалі з гэтай прычыны. І калі Людвік памёр, яны прадалі 60 дзесяцін зямлі і пачалі будаваць каля сваёй сядзібы касцёл.

У 1906 г. у новым касцёле пачалі праводзіцца богаслужэнні. Цэнтральным абразом алтара храма з'яўляўся абраз Маці Боскай Шкаплернай.

У будаўніцтве касцёла прымаў удзел і Вінцэнт Кучэўскі, які скончыў Магілёўскае рэальнае вучылішча. Тут ён ажаніўся на мясцовай прыгажуні Альжбеце Пратасевіч, бацькі якой спачатку арэндавалі зямлю ў Камяніцы, а затым, узяўшы пазыку, купілі надзел у Шпыркаў.

Варта сказаць, што ў Свяцілавічах жылі як католікі, так і праваслаўныя. Апошнія нярэдка прыходзілі да касцёла, адкуль чуліся спевы і гукі аргана. Гэта не спадабалася пані Тэрэзе Войнавай, якая паведаміла пра такія факты ў Магілёўскую духоўную кансісторыю. За адзін год у тэрміновым парадку ў Свяцілавічах першых была пабудавана драўляная царква.

***В. ЖАЛНЯРОВІЧ,***
***настаўніца-пенсіянерка***

# Хутка адзначым тысячагоддзе

***Пачнём, як звычайна., са сталіцы Ваўкавышчыны, Ваўкавыскага княства, Ваўкавыскага раёна Гродзенскай вобласці.***

***«Існуе дзіўная завядзёнка – святкаваць юбілеі, беручы за пункт адліку першую прыгадку паселішча ў летапісе. Нават калі гэтая прыгадка сведчыць пра пажар, пры якім паселішча выгарала датла, ці пра руйнаванне ягоных падворкаў ворагамі. Атрымліваецца парадокс – юбілейная дата жыцця адлічваецца ад даты смерці», – так напісаў амаль наш зямляк – дзярэчынскі пісьменнік Міхась Скобла.***

І сапраўды. Да таго, як трапіць на старонкі Іпацьеўскага летапіса, Ваўкавыск існаваў добрыя тры сотні гадоў, але ўпершыню яго назва загучала для нас толькі ў 1252 г. як назва памежнай крэпасці.

«Волковыескъ» – так называўся горад у тыя часы. Назва пайшла ад рэчкі Ваўкавыя. Размяшчаўся горад у сутоках рэчак Ваўкавыя і Рось. У XIII стагоддзі – сталіца Ваўкавыскага княства.

У 1256 г. ваўкавыскі князь Глеб з навагародскім князем удзельнічаў у паходзе на яцвягаў. У XIII стагоддзі Ваўкавыск сам стаў аб'ектам барацьбы паміж галіцка-валынскімі і літоўскімі князямі.

Ужо з пачатку XIV стагоддзя Ваўкавыск у складзе Вялікага княства Літоўскага (ВКЛ), а з другой паловы гэтага стагоддзя – уласнасць вялікага князя ВКЛ Ягайлы, пазней – Вітаўта.

1385 год. Крэўская унія. Вось што піша «Хроніка літоўская і жамойцкая»: «Гды кроль полски Людовик умер, не заставивши по себе сына жадного, только дочк едину на имя Ядвигу, тым часом в Полци вялikия ростирки вшалися, великия панове полския з Кракова присылали до Ягайла, просячи, абы приехал до Кракова на кролевство Полскае и абы окрестився в их веру, а кролевну понявши, зостал паном всей Полшы».

«Трэба адзначыць, – піша гісторык Мікола Ермаловіч, – што ў Крэве толькі была распачата справа аб'яднання дзвюх дзяржаў. Канчатковыя рашэнні па гэтых пытаннях былі прыняты на Ваўкавыскім з'ездзе, які адбыўся 12 студзеня 1586 г.». Тут жа, у Ваўкавыску, польскія паслы абвясцілі Ягайлу гаспадаром, каралём і панам Польшчы і ўручылі яму дэкларацыю аб гэтым. Статус Ягайлы вызначаўся як «манарх дзвюх дзяржаў». З гэтага часу ў Польшчы заснавалася ліцвінская каралеўская дынастыя Ягелонаў, якая дала шэсць каралёў і вялікіх князёў ВКЛ. Але і абышлася Беларусі дарагаамаль стратай незалежнасці.

На Вербніцу 16 сакавіка 1410 г. горад нечакана захапіў і спаліў вялікі магістр Тэўтонскага ордэна Конрад Кнінген. Але ўжо ў ліпені 1410 г. Ваўкавыская харугва ўдзельнічала ў Грунвальдскай бітве, дзе крыжакі былі разбіты. Аб выключнасці гэтай перамогі можна меркаваць па выніках яе: узброены немец ажно 504 гады не ступаў на землі ўсходніх славян (да 1914 г.)!

У 1430 г. Вітаўт заснаваў у Ваўкавыску касцёл Святога Мікалая. З XV стагоддзя Ваўкавыск – цэнтр староства, а з пачатку XVI стагоддзя (1507 г.) – цэнтр Ваўкавыскага павета Навагародскага ваяводства. У 1503 г. Ваўкавыск атрымаў магдэбургскае права. Магчыма, з гэтага часу пачынае ўжывацца герб горада з выявай ваўка.

У 1513 г. у Ваўкавыску было 9 вуліц. З 1536 г. вядома Прачысценская царква, у 1598 г. заснаваны ў горадзе кляштар езуітаў.

Ваўкавыск неаднаразова быў спалены ў час войнаў сярэдзіны XVII – пачатку XVIII стагоддзяў. У 1654 г. паблізу горада адбылася бітва аб'яднанага войска ВКЛ і Польшчы са шведамі, горад быў заняты войскамі Карла X.

У час вайны Расіі з Рэччу Паспалітай 1654–1667 гг. Ваўкавыск быў захоплены рускімі войскамі (1655 г.), а пасля моцна разбураны (1662 г.).

У другой палове XVIII стагоддзя ў Ваўкавыску дзейнічала школа піяраў. У 1762 г. у горадзе было 112 двароў. А ў 1792 г. ён налічваў 2 172 жыхары і 362 дамы. Адміністрацыйным і гаспадарчым цэнтрам горада быў замак на рэчцы Ваўкавыя паблізу Ізабелінскага гасцінца. Паводле інвентара 1736 г. на тэрыторыі замка размяшчаліся: дом старасты, гаспадарчыя пабудовы, млын і карчма. Пазней былі пабудаваны канцылярыя і дом для манашак-марыявітак.



Гарадзішча (Шведская гара)

У час паўстання Тадэвуша Касцюшкі ў Польшчы, на Беларусі і ў Літве вясной 1794 года Ваўкавыск быў заняты паўстанцамі. З 1795 г. Ваўкавыск далучаны да Расіі; цэнтр павета.

На пачатку вайны з Напалеонам у 1812 г. у горадзе размяшчалася штаб-кватэра камандуючага 2-й Заходняй рускай арміі генерала П. І. Баграціёна. У гэтым доме з 1940 г. размешчаны Ваўкавыскі дзяржаўны ваенна-гістарычны музей імя П. І. Баграціёна. Музей утвораны на базе ўласных калекцый ваўкавыскім чыгуначнікам, калекцыянерам і археолагам Георгіем Іосіфавічам Пехам (1935 г.).

Заняўшы горад у чэрвені 1812 г., французы абрабавалі насельніцтва. У час іх адступлення (лістапад 1812 г.) Ваўкавыск быў моцна разбураны, ацалела толькі 46 дамоў.

У 1815 г. тут было 156 дамоў, 816 жыхароў, у 1849 г. – 461 дом, 2 267 жыхароў, 4 прамысловыя прадпрыемствы (58 рабочых), прамысловае вучылішча, бальніца. У 1860 г. у горадзе 492 дамы, 3 472 жыхары, 2 школы, касцёл, царква, 7 малітоўных дамоў, сінагога, цагельня, гарбарня, 2 млыны, шпіталь, 58 крамаў.

У 1885 г. праз Ваўкавыск прайшла чыгунка Баранавічы – Беласток, па якой штогод перавозілі да 26 мільёнаў пудоў грузаў. Гэта стымулявала развіццё прамысловасці.

У 1891 г. у горадзе працавала 19 фабрык і прамысловых прадпрыемстваў. На 1897 г. налічвалася 10 923 жыхары.

У час рэвалюцыі 1905–1907 гг. у Ваўкавыску і яго ваколіцах адбыліся выступленні рабочых, забастоўкі сялян, хваляванні навабранцаў і салдат (1905 г.). У 1914 г. тут ужо пражывае 16 754 жыхары. У час Першай сусветнай вайны, восенню 1915 г., горад акупіравалі германскія войскі.

У канцы 1918 г. у Ваўкавыску адбыўся першы павятовы з'езд сялянскіх дэпутатаў, які выбраў выканаўчы камітэт, 6 лютага 1919 г. горад занялі польскія войскі, а 24 ліпеня 1920 г. яго захапіла Чырвоная Армія, быў створаны павятовы рэўкам. Але ўжо 27 верасня 1920 г. Ваўкавыск зноў быў заняты польскімі войскамі і знаходзіўся ў складзе Польшчы да восені 1939 г., як цэнтр павета ўваходзіў у Беластоцкае ваяводства. У гэты час у ім дзейнічалі ліцейны завод, дзве цагельні, дзве лесапільні і іншыя дробныя прадпрыемствы; паблізу (каля вёскі Краснае Сяло) працаваў цэментны завод акцыянернага таварыства «Высока», які лічыўся адным з буйнейшых прадпрыемстваў у Заходняй Беларусі.

З 14 лістапада 1927 г. у горадзе выходзіла газета на польскай мове «Тыгоднік Ваўкавыскі». З прычыны матэрыяльных цяжкасцей газета выходзіла нерэгулярна: у 1927 г. выйшла 7 нумароў, у 1928 г. – 54 нумары, у 1930 г. – 10 нумароў, два гады газета зусім не выходзіла, у 1933 г. выйшла 47 нумароў, у 1934 г. – 47 нумароў, у 1935 г. – 24 нумары. Апошні нумар «Тыгодніка» выйшаў 8 верасня 1935 г. Тыраж газеты – каля 500 экземпляраў. Газета друкавалася ў Ваўкавыску, Беластоку, Варшаве... Кошт аднаго нумара быў 20 грошаў... У газеце была надрукавана вялікая праца Аляксандра Быхаўца (таго самага, які захаваў «Хроніку Быхаўца») «Статыстыка Ваўкавыскага павета. 1840 г.»

З кастрычніка 1939 г. пачала выходзіць новая раённая газета «Заря» («Знамя Октября», «Наш час»). Газета выходзіць да сённяшняга дня.

У 1933 г. аўтобус з Ваўкавыска курсіраваў да Зэльвы і Свіслачы.

У горадзе дзейнічалі падпольныя арганізацыі КПЗБ і КСМЗБ. У 1935 г. адбылася забастоўка рабочых і служачых Ваўкавыскага чыгуначнага вузла.

У 1939 г. у Ваўкавыску жылі 16,7 тысячы жахароў.

З 17 верасня 1939 г. горад у складзе БССР, а з 15 студзеня 1940 г. – цэнтр раёна Гродзенскай вобласці.

***Міхась ВЕРАЦІЛА***





***За мяжой рэдка пішуцца даследаванні, прысвечаныя творчасці асобных беларускіх пісьменнікаў. Таму асабліва прыемна, што ініцыятарам навуковага кантакту на гэты раз выступіў не знаны беларусіст, а малады навуковец. Дыялог і навуковае супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Германіяй працягваецца. Расце новая і вартая змена беларусістаў.***

# Андрэ Бём пра Караткевіча

Яркім сведчаннем таму – абарона магістарскай працы, прысвечанай творчасці вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. Аўтар даследавання – выпускнік філалагічнага факультэта Інстытута славістыкі Лейпцыгскага універсітэта Андрэ Бём. Яго праца – своеасаблівы працяг вывучэння творчасці нашага славутага суайчынніка. Але, у адрозненне ад добра вядомых айчынных і замежных даследчыкаў, А. Бём зрабіў удалую спробу разгледзець творы У. Караткевіча нетрадыцыйна, па-новаму. Таму даследчык выбраў тэму «Карціна свету і канцэпцыя фігур у выбраных эпічных творах Уладзіміра Караткевіча». Напісанне такой працы, бясспрэчна, было немажліва без асэнсавання гісторыі Беларусі, асабістага знаёмства з краінай. А. Бём прыязджаў у Мінск, кансультаваўся ў Міжнароднай асацыяцыі беларусістаў.

Ва ўступнай частцы аўтар вызначае адметнасць стылю У. Караткевіча, акрэслівае тэматыку і праблематыку яго твораў, адзначае асноўныя айчынныя і замежныя даследаванні, прысвечаныя творчасці пісьменніка. Прадметам вывучэння выбрана прадстаўленая ў пяці разнастайных творах У. Караткевіча карціна свету і фігуры, якія насяляюць свет, а таксама адносіны людзей да сусветнага парадку. З усёй спадчыны пісьменніка выбраны два раманы і тры аповесці. Асноўным крытэрыем для вылучэння іх тэкстаў стаў гістарычны час: гэта тэксты, падзеі ў якіх разгортваюцца ў XX стагоддзі – «Нельга забыць», «Лісце каштанаў», «Чорны замак Альшанскі», «У снягах драмае вясна». На думку аўтара, уключэнне ў гэты спіс аповесці «Дзікае паляванне караля Стаха» таксама апраўдана, але толькі ў сувязі з раманам «Чорны замак Альшанскі». Зыходзячы з заяўленай праблематыкі, аўтар падзяляе матэрыял на чатыры часткі: «Карціна свету», «Канцэпцыя фігур», «Апавядальнік і спосаб апавядання як кампанент, што фарміруе карціну свету», «Крытычная ацэнка ўнутрытэкставых прыкмет у структуры верхніх і глыбінных пластоў».

У даследаванні аўтарам глыбока асэнсоўваюцца некаторыя філасофскія паняцці, якія знаходзяць сваю інтэрпрэтацыю ў літаратурных творах і служаць для стварэння пэўнай карціны свету. Прыцягваючы багаты ілюстрацыйны матэрыял непасрэдна з творчасці У. Караткевіча, даследчык разважае пра дабро і зло, патрыятызм, гуманізм, жыццё для навукі, космас як своеасаблівы сусветны парадак з чалавекам у эпіцэнтры і г.д.

Значная ўвага надаецца ў працы аналізу персанажаў у іх узаемасувязі з агульнай канцэпцыяй твора і канцэпцыяй фігур. Аўтар прэзентуе свой погляд і сваё асабістае ўспрыняцце твораў беларускага пісьменніка, што выяўляецца пры асвятленні такіх пытанняў, як маральная цэльнасць героя, падтрымка героя, жанчына ў дачыненні да героя. Не застаўся без увагі асэнсаваны падыход пісьменніка да выбару імя героя.

У наступных частках даследавання аўтарам вылучаюцца схемы пяці выбраных твораў. На думку даследчыка, схематызм тут выяўляецца ў палярызацыі фігур – ад станоўчых да адмоўных, што ў некаторай ступені спрашчае маральную карціну свету. У гэтай сувязі аўтар адзначае асаблівасці трывіяльнай літаратуры і прыходзіць да высновы, што ўсе пяць названых твораў У. Караткевіча не належаць да ліку трывіяльных, паколькі ідэалістычна-рамантычнае адлюстраванне беларускай гісторыі і культуры, а значыць, і беларускіх характараў, успрымаецца найперш як патрыятычнае нават і прадстаўнікамі іншых культур.

Дадатным бокам працы з'яўляецца ўдалае спалучэнне рознахарактарнай літаратуры па выбранай праблеме. Тэарэтычная аснова даследавання базіруецца на сучаснай нямецкамоўнай літаратуразнаўчай традыцыі з уключэннем філасофскіх трактатаў па эстэтыцы. Разам з тым аўтарам выкарыстана найбольш значная айчынная і замежная літаратура, прысвечаная жыццю і творчасці пісьменніка. Спіс літаратуры вызначаецца паўнатой і скрупулёзным адборам.

Цікавасць выклікае таксама «Дадатак», прыкладзены да працы, у якім знайшла адлюстраванне пададзеная ў таблічным выглядзе сціслая характарыстыка персанажаў, якія, на думку аўтара, адыгралі ключавую ролю ў фарміраванні канцэпцыі фігур, і біяграфічныя звесткі з жыцця беларускага пісьменніка. У працы змешчаны таксама некалькі фотаздымкаў У. Караткевіча.

На наш погляд, аўтару ўдалося прадставіць творчасць У. Караткевіча як адметную і змястоўна глыбокую з'яву беларускай і еўрапейскай літаратур, акрэсліць, чым могуць зацікавіць і ўзбагаціць яго творы еўрапейскага чытача. Пры азнаямленні з працай відаць, што даследчык добра валодае беларускай мовай. Вывады аўтара ўяўляюцца пераканаўчымі, але зроблены яны, на жаль, на аснове абмежаванай колькасці твораў.

Літаратурная спадчына У. Караткевіча ўводзіць чытача ў беларускую культуру, часта малавядомую нямецкамоўнай аўдыторыі. Разам з тым творы пісьменніка – гэта і скарбонка агульначалавечых вобразаў і характараў, азнаямленне з якімі робіць зразумелым і блізкім свет, у якім жывуць персанажы. Праз асэнсаванне месца і ролі герояў даследчык паспрабаваў глыбока і пранікнёна выявіць задуму аўтарскага тэксту, разгадаць адлюстраваную ў творах своеасаблівую карціну свету.

Хочацца павіншаваць маладога навукоўца і пажадаць, каб распачатае ім спасціжэнне Беларусі паслужыла трывалай асновай для далейшай грунтоўнай навукова-даследчай дзейнасці.

***Кацярына ЛЮБЕЦКАЯ,***
***супрацоўніца Цэнтра імя Ф.Скарыны***




# (1804–1891) Аляксандр Ходзька

***У вывучэнні літаратуры і фальклору народаў Каспійскага ўзбярэжжа ў XIX стагоддзі выдатную ролю адыграла дзейнасць нашага суайчынніка ўсходазнаўца Аляксандра Ходзькі. На вечарыне парыжскіх эмігрантаў з Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны ў гонар выхаду ў свет «Персідскай граматыкі» нашага земляка Аляксандра Ходзькі (1852 год) адзін з выступоўцаў, сын Адама Міцкевіча Уладзіслаў, адзначаў, што ва ўсходазнаўца «шчасліва спалучаюцца тры найбольш выдатныя народнасці Польшчы – польская, літоўская і руская».***



Нарадзіўся Аляксандр Ходзька 30 жніўня 1804 года ў маёнтку Крывічы (цяпер Мядзельскі раён Мінскай вобласці) у сям'і вядомага ў Літве і Беларусі грамадскага дзеяча і пісьменніка Яна Ходзькі.

А. Ходзька атрымаў добрую хатнюю адукацыю, вывучыў некалькі замежных моў, затым з 1816 года ён вучыўся ў Вільні ў гімназіі пад наглядам Тамаша Зана, будучага кіраўніка віленскіх паўлегальных маладзёжных таварыстваў («прамяністых», «філаматаў» і інш.), якія з'яўляліся своеасаблівай формай пераходу ад асветніцкай дзейнасці да арганізаванай палітычнай барацьбы супраць царызму.

Пасля заканчэння гімназіі ў 1820 годзе А. Ходзька паступіў на філалагічнае аддзяленне Віленскага універсітэта. Вялікі ўплыў на яго аказалі лекцыі выдатных навукоўцаў таго часу – І. Лялевеля, Г. Гродзека, Ю. Галухоўскага, І. Даніловіча. А. Ходзька ўвайшоў у склад блізкіх саўдзельнікаў Т. Зана па маладзёжных таварыствах і прыняў актыўны ўдзел у іх дзейнасці. Ён стаў сакратаром Блакітнага (філалагічнага) саюза філарэтаў.

Пасля разгрому царскімі ўладамі таварыстваў А. Ходзька (як і іншыя члены, у тым ліку і яго сябра Адам Міцкевіч) знаходзіўся пад следствам у зняволенні з восені 1823 года да вясны 1824 года. Ён быў апраўданы і працягваў вучыцца. 16 красавіка 1825 года скончыў Віленскі універсітэт.

7 студзеня 1827 года А. Ходзька паступіў на вучэбнае аддзяленне жывых моў пры Азіяцкім Дэпартаменце Міністэрства замежных спраў у Пецярбургу. Гэта аддзяленне рыхтавала перакладчыкаў з усходніх моў для рускай місіі ў Іране і Турцыі.

У 1829 годзе Ходзька выдаў зборнік вершаў, у якім праявіўся на ўсю моц яго інтарэс да Усходу.

1 студзеня 1830 года А. Ходзька быў прызначаны перакладчыкам у расійскую місію ў Іране. Са знаходжаннем у Іране звязаны самы плённы перыяд біяграфіі А. Ходзькі.

29 красавіка 1841 года А. Ходзька выехаў за мяжу, каб падлячыцца «ў паўдзённай Еўропе». Адпачынак ён правёў у Грэцыі і Італіі. Ён звольніўся з дыпламатычнай службы і пасяліўся ў Парыжы. Тут А. Ходзька аднавіў сяброўства з А. Міцкевічам і дапамагаў яму выдаваць газету «La Tribune des Peuples», вакол якой аб'ядналіся эмігранты з розных краін.

А. Ходзька не губляў сувязяў з Іранам, быў кансультантам іранскага палітычнага дзеяча Фаррух-хана Амін ад-Даула.

У 1857 годзе А. Ходзька дарэмна імкнуўся заняць вакантнае месца выкладчыка персідскай мовы ў парыжскай Школе ўсходніх моў. Ён атрымаў толькі месца прафесара славянскіх моў і літаратур у парыжскім універсітэце Калеж дэ Франс. Памёр навуковец 19 снежня 1891 года ў Нуазі-дэ-Сек, непадалёку ад Парыжа, і быў пахаваны на могілках ў горадзе Манмарансі.

А. Ходзька цікавіўся праблемамі філалогіі, фалькларыстыкі, этнаграфіі, рэлігіі, тэатра народаў прыкаспійскіх абласцей. Асаблівы інтарэс маюць падарожныя дзённікі А. Ходзькі па Ірану ў 1834 годзе, у лютым, маі 1835 года.

Найбольш вядомай стала кніга А. Ходзькі «Specimens of the popular poetry of Persia (...)» (1842 год). Яна складаецца з наступных раздзелаў: 1. Прадмова. 2. Увядзенне да «Кераглу»[1]. 3. Прыгоды і імправізацыі Кераглу. 4. Народныя песні астраханскіх татараў. 5. Тры песні калмыкаў. 6. Туркменскія песні. 7. Песні персідскіх туркаў. 8. Персідскія песні. 9. Песні гілянцаў і інш. 10. Тое ж самае рудбарскіх горцаў. 11. Тое ж самае талышоў. 12. Тое ж самае мазандэранцаў. 13. Прыклады тэкстаў. 14. Дзевяць персідскіх песень, аранжыраваных для фартэпіяна (Антоніем Концкім). 15. Да песень, змешчаных у 14-м раздзеле («Кераглу», «Азербайджанскае паветра» і інш.), прыкладзены ноты.

У зборніку А. Ходзька адным з першых апублікаваў запісы народнай творчасці азербайджанцаў, туркменаў, нагайцаў, талышоў, іранцаў, гілянцаў, мазандэранцаў, калмыкаў. Раней усходазнаўцы вывучалі пераважна прыдворную пісьмовую літаратуру, а А. Ходзька адным з першых увёў фальклор названых вышэй народаў у шэраг навуковых даследаванняў.

Веданне А. Ходзькам цюркскіх і іранскіх моў, цесныя зносіны з жыхарамі Ірана садзейнічалі таму, што даследчык ажыццявіў адпаведныя пераклады туркменскай, азербайджанскай, персідскай і іншых узораў паэзіі на еўрапейскія мовы.

Дзейнасць А. Ходзькі садзейнічала фарміраванню ў сучаснікаў гуманных уяўленняў пра народы Блізкага Усходу і Сярэдняй Азіі. Яго працы дапамагалі станаўленню і развіццю фалькларыстыкі, мовазнаўства і этнаграфіі народаў прыкаспійскага рэгіёна.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ**
**(З кнігі «Славутыя імёны Бацькаўшчыны» скарочана)**

[1] Кераглу – туркменскі пясняр з роду тэке, герой паданняў цюркскамоўных народаў Азіі.



*Віленскі універсітэт у сярэдзіне XIX ст.*

*Да 190-й гадавіны з дня нараджэння Міхаіла Лермантава*

# З вечна маладых

Міхаіл Лермантаў, Мікалоз Бараташвілі, Шандар Пёцефі, Максім Багдановіч і іншыя – рускі, грузінскі, венгерскі, беларускі паэты, якія пражылі на гэтым свеце толькі крыху за 25 гадоў, альбо паэт Сяргей Ясенін, які пайшоў з жыцця, зведаўшы на пяць вёснаў больш.

Зусім маладыя людзі; шматлікія славутыя пісьменнікі многіх краін свету толькі пачыналі тварыць у такім узросце, а яны, маладыя, адразу ўжо выпалымenілі такі агонь паэзіі, што ён тут жа стаў не толькі далёка відзён, але ўдаўся і нязгасны, з цягам часу пачаў вабіць да сябе ўсё больш і больш – бывала, нават па зусім незразумелай прычыне. Можа, і таму, што загадкавыя былі жыццё, духоўны і творчы свет, паводзіны і ўчынкі, лёс гэтых маладых паэтаў.

Міхаіл Лермантаў (нарадзіўся 3 кастрычніка 1814 года) пачаў пісаць вершы (і не толькі іх) вельмі рана, калі паўднёва ззяла «сонца рускай паэзіі» – тады, калі ў рускай паэзіі, прозе, публіцыстыцы і ўвогуле ў духоўнай галіне цараваў Аляксандр Пушкін, ужо пры жыцці прызнаны геніяльным. Ёсць сведчанні: юны Лермантаў не проста любіў гэтага волата-паэта, а лічыў яго свяшчэнным; шмат тварыў, але ў друк не аддаваў, толькі давяраў свае творы самым блізкім сябрам. Чаму? Быў багаты і не меў патрэбы ў аўтарскай узнагародзе? Бянтэжыўся перад заканадаўцам мод? Недаацэньваў сябе?

Адказу на гэта не было тады, пры яго жыцці; мабыць, няма поўнага адказу і цяпер: тыя, хто і блізка ведаў Лермантава, не здолелі яго зразумець. Здаецца, ніводнага слыннага рускага паэта не характарызавалі гэтак супярэчліва: адны – не проста насмешлівы, пагардлівы, уедлівы, а «воплощение шума, буйства, разгула, настоящий дьявол», другія – часта засмучаны, задумлівы, з рэзкімі зменамі душэўнага стану, з моцным характарам, трэція– даверлівы, сарамлівы. Усё гэта ў ім цяжка зразумець, можа, і таму, што змалку ён асуджаны на супярэчлівасць: маці гіне, бабуля любіць да самазабыцця, але не дапускае да яго бацьку, рана ўводзіць яго ў вышэйшы свет, дзе юную душу ўражваюць людскія няшчырасць і жорсткасць. Тым больш, што душа ягоная была вельмі чуйная і ўспрымальная: ведаў шмат моў, быў выдатны мастак і музыкант.

Смерць Пушкіна скаланула яго, ён не проста адгукнуўся на яе, а абрынуўся на царызм з усім сваім гневам, на што не асмеліліся нават бліжэйшыя пушкінскія сябры: «Не вы ль сперва так злобно гнали // Его свободный, смелый дар // И для потехи раздували // Чуть затаившийся пожар?» Лермантаў сумленна і мужна ўказаў на забойства «светоча, дивного гения», а дуэлянта Дантэса назваў злачынцам:

*Его убийца хладнокровно*
*Навел удар... спасенья нет:*
*Пустое сердце бьется ровно,*
*В руке не дрогнул пистолет.*
*И что за диво?.. издалека,*
*Подобный сотням беглецов,*
*На ловлю счастья и чинов*
*Заброшен к нам по воле рока;*
*Смеясь, он дерзко презирал*
*Земли чужой язык и нравы;*
*Не мог щадить он нашей славы;*
*Не мог понять в сей миг кровавый,*
*На что он руку поднимал!..*

Лермантава арыштавалі; яму наканавалі лёс выгнанніка, і ён, горача любячы Радзіму (тым жа «Барадзіно» захопіцца Леў Талстой, прызнаўшы, што гэты твор маладога паэта стаў стрыжнем ягонай эпапеі «Вайна і мір»), будзе вымушаны напісаць: «Прощай, немытая Россия». Іншыя, можа, і не мелі права такое рэзкае, балючае сказаць, а ён меў, як і многае непрыемнае вышэйшаму свету, – за фальш і ману, за непрыглядную будучыню і скалечаны лёс маладога пакалення. Ні свае з вышэйшага свету, ні «сотни беглецов» не маглі яму даравацъ такі выклік; паэта падвялі пад кулю.

Яшчэ пры жыцці сябры ўгаварылі Лермантава не раскладаць па чужых, у тым ліку і жандарскіх, шуфлядах свае творы, а выдаць іх. Ён паслухаўся. Але як! З 30 сваіх паэм ён адабраў для друку толькі дзве, а з соцень вершаў толькі 25. Астатняе будзе знойдзена і надрукавана праз дзесяткі гадоў пасля яго смерці і ўжо тады яскрава стане відавочна: вершам «Смерць паэта» ён не проста гнеўна і смела адгукнуўся на трагічную для Расіі падзею, ён падхапіў з пушкінскіх нежывых рук сцяг рускай паэзіі, вялікай духоўнасці, што было не па сіле іншым. Яго таксама назавуць геніем рускай і сусветнай літаратуры.

Лермантаў, як сведчаць даследчыкі, неаднаразова быў у Беларусі, меў пэўныя звесткі пра гісторыю ВКЛ. Як чалавек вельмі ўспрымальны і да ўсяго тутэйшага (у высылцы на Каўказе вывучаў азербайджанскую і грузінскую мовы, напісаў нямала твораў на мясцовыя тэмы), ён не мог абысці і пачутае на нашай зямлі – прыкладна ў 1832 годзе напісаў паэму «Ліцьвінка», дзе ўславіў подзвіг нашай зямлячкі Клары супраць захопнікаў, а ў 1835-м стварыў паэму «Баярын Орша» пра эпоху Івана Грознага і ягоны паход на Полацк.

Многія творы Міхаіла Лермантава з любоўю перакладзены на беларускую мову. Яшчэ ён нам дарагі тым, што з ягонага роду наша паэтэса Наталля Арсеннева. Пераклад «Ліцьвінкі» Станіславам Суднікам перадаў рэдакцыі вядомы фальклрыст Васіль Ліцьвінка. Змяшчаем урывак з гэтага твора.

**Генрых ДАЛІДОВІЧ**

# Лермантаў Вягеліна


Малюнак Лермантава (пяро)

Як вядома, за верш, напісаны на смерць А.С. Пушкіна, вясною 1837 года Міхаіл Юр'евіч Лермантаў быў сасланы на Каўказ. Туды ж самадзяржаўем Расійскай імперыі пад кулі горцаў з Сібіры былі адпраўлены дзекабрысты Н.І. Ларэр, М.М. Нарышкін, У.І. Ліхараў, А.І. Адаеўскі, М.А. Назімаў, дзекабрысты-кіраўнікі таварыства «Ваенныя сябры» (да таго служылі на Гродзеншчыне) Канстанцін Ігельстром і Аляксандр Вягелін. Дзекабрысты ўсё больш і больш уваходзяць у кантакт з апальным паэтам. Яго блізкімі сябрамі становяцца Аляксандр Вягелін і Уладзімір Ліхараў.

Нас найперш цікавіць дружба паэта з дзекабрыстам А. Вягеліным, сябрам Адама Міцкевіча па Навагрудку. Першае знаёмства Вягеліна з Лермантавым адбылося летам 1840 года ў Цянгінскім палку, падчас баявых дзеянняў на Каўказе. І мы можам зараз з усёй упэўненасцю сказаць, што цесныя адносіны Вягеліна з паэтам вельмі сур'ёзна паўплывалі на яго далейшы лёс. А што абодва і сапраўды выявілі сябе як дзве пародненыя, моцныя духам асобы, сведчыць другая іх сустрэча летам 1841 года.

Калі ж 27 ліпеня гэтага ж года жыццё М.Ю. Лермантава трагічна абарвалася на дуэлі, менавіта А.Вягелін у сваіх пісьмах да сястры М.І. Козенс грунтоўна апісаў гібель паэта, чаму так усё адбылося, як і вырашыў «з-за хваробы» пайсці ў адстаўку.

«Хвораму» дзекабрысту забараняецца ўезд у абедзве сталіцы. Спачатку ён жыве ў Палтаве, затым у сваякоў у Херсонскай губерні. Халасты.

І раптам у канцы 1858 года А. Вягелін прыязджае ў Адэсу. Навошта? Адказ знаходзім у кнізе С. Букчына «К мечам рванулись наши руки». Тут мы чытаем, што «Ніхто не здагадваўся, што пад сціплай пасадай памочніка загадчыка «Кампаніі Адэскай установы мінеральных вод» хаваўся тайны карэспандэнт «лонданскага прапагандыста» Герцэна».

4 верасня 1859 года І.С. Тургенеў пісаў з Парыжа Герцэну: «Тыдні праз два з'явіцца да цябе чалавек, якога ты, напэўна, добра прымеш, – дзекабрыст Вягелін, які жадае з табой пазнаёміцца, ён прывязе табе ад мяне два важныя рукапісы, якія мне былі дастаўлены для «Полярной звезды» ў час майго знаходжання ў Вішы». Факт цудоўны. Член таварыства «Ваенныя сябры» на Гродзеншчыне дзекабрыст А. Вягелін з'яўляўся «звяном», якое звязвала першае і другое пакалененні барацьбітоў за свабоду, у чым, несумненна, праглядваецца ўплыў Лермантава.

**А. ШАРОЎ, краязнавец, г. Навагрудак**

# Ліцьвінка

**(Раздзелы з паэмы)**

### 7

*Вячэрні пір; рабы паўсюль шумяць.*
*Лампады ў пышных грыдніцах гараць;*
*Кіпіць у срэбраным карцы віно;*
*Да пары той прывыкнуўшы даўно,*
*Арсень пацягвае бурштынны сок,*
*Каб заглушыць сумленне на глыток!*
*Палонніца ж яго цяжкі пагляд*
*Чытае як вясёласці загад.*
*Прытворная ласкавасць, гучны смех,*
*Апроч яе, склікае ўсіх для ўцех.*
*Ад шчасця твар Арсеня расцвітаў,*
*І ласкава ліцьвінку ён абняў;*
*І кудры залатых яе валос*
*Вятрыска па плячах яго разнёс*
*І апусціў духмянаю фатой*
*На грубы лік, адзначаны вайной.*
*А Клара нанясла на тварык сум*
*І шэпча, нібы даўнішнюю з дум:*
*«Кахаеш ты мяне?» «Што тут пытаць? –*
*Усклікнуў ён, – Табе хіба не знаць?*
*Хто для цябе так многа пагубіў,*
*Як я? – і твой Арсень ды не любіў?*
*І хіба я цябе калі б абняў,*
*Каб не гарэў душою, не кахаў?*
*О, жартамі мяне не спакушай!*
*Сярод людзей мне пекла, а мой рай*
*Ля ног тваіх! – як толькі хоць на міг*
*Не чую поціску я рук тваіх,*
*Палац і плаха мне тады адно,*
*Прасвету ў днях самотных не відно!*
*Я беззаганны ля тваіх грудзей:*
*Суровы, дзікі для чужых людзей!*
*Я, да тваіх схіліўшыся калень,*
*І мірны, і шчаслівы цэлы дзень.*
*І цёплае дыханне губ тваіх*
*Прыемней ад курэнняў дарагіх!*
*Ты валадарыць створана была:*
*Мяне скарыць каханнем ты змагла.*
*Хай раб я твой, мной не ўладарыць лёс –*
*Ці ж годныя цябе рабы нябёс?*
*Каб не стварыў мяне калісьці Бог,*
*Ён і цябе паслаць бы ў свет не змог».*

***Вечерний пир готов; рабы шумят.***
***В покоях пышных блещет свет лампад,***
***В серебряном ковше кипит вино;***
***К его парам привыкнувший давно,***
***Арсений пьет янтарную струю,***
***Чтоб этим совесть потопить свою!***
***И пленница, его встречая взор,***
***Читает в нем к веселью приговор,***
***И ложная улыбка, громкий смех,***
***Кроме ее, обманывают всех.***
***И веря той улыбке, восхищен***
***Арсений; и литвинку обнял он;***
***И кудри золотых ее волос,***
***Нежнее шелка и душистей роз,***
***Скатилися прозрачной пеленой***
***На грубый лик, отмеченный войной.***
***Лукаво посмотрев, принявши вид***
***Невольной грусти, Клара говорит:***
***«Ты любишь ли меня?» – «Какой вопрос?» –***
***Воскликнул он...***

### 8

*Тут Клара: «Калі б ты мяне кахаў,*
*Дакладна б мяне ў вязнях не трымаў,*
*Я не жыла б у цераме тваім.*
*Ты кажаш, што ён мой, а што мне ў ім?*
*Багаццем дзіўны, пыхай без мяжы,*
*Вачам ён мілы, сэрцу ён чужы.*
*Праз гай тут воды чыстыя цякуць,*
*Ды рэчку ўсё ж не Віліяй завуць;*
*І вецер, што гайдае тут траву,*
*Мне не прыносіць песні пра Літву!*
*Не! Пра каханне мне не гавары,*
*Без мілай волі, што тваё дары?»*
*І змоўкла Клара, і халодны яд,*
*Пагарды поўны, выліла ў пагляд.*
*Арсень быў нерухомы ля яе,*
*Аддаў бы ўсе багацці ён свае,*
*Адзін, адзін каб позірк атрымаць,*
*Ды, рускі, волі ёй не мог аддаць.*

### 14

*Гарыць заранка, і паўсонны гай*
*Пад часты грэбень чэша небакрай.*
*А што ж брамар? Мо праз гады свае*
*Маўчыць і ў дошку медную не б'е?*
*Што ж церам звонку не абходзіць ён?*
*Няўжо ён спіць? Ён спіць – ды вечным сном!*
*Адкінута завала ад варот;*
*Ляжыць стары, зацяўшы мёртвы рот,*
*І вочы прызаплюшчыў назаўжды,*
*І кроў цячэ па космах барады.*
*Прыбеглі слугі, топчуцца вакол,*
*Адно дратуюць баязліва дол;*
*Маўчыць адзін, схіліўшы галаву,*
*Другі вакол разглядвае траву;*
*Хапала духу дзеда шкадаваць.*
*Але ніхто не ведаў, дзе шукаць*
*Забойцу, чыя жорсткая рука*
*Не ўздрыгнула над шыяю дзядка?*
*Хто адчыніў высокае акно*
*І вузкай, белай стужкай палатно*
*Спусціў на двор? Блакітны пояс чый*
*Утоптаны ў пясок быў уначы*
*Маленькаю нагой? Шукаць дарма.*
*След ля варот. І Клары, той няма!*

### 21

*Арсень цудоўны быў ваяр.*
*Ён кроўю вырашыў кахання жар*
*І пал душы спапеленай заліць.*
*Ён ненавідзіць свет, каб не любіць*
*Адно стварэнне! Кучы мерцвякоў*
*Без тарчаў валяцца з усіх бакоў,*
*І палымнее радасцю пагляд,*
*З даўніх часоў так помсты ў якім шмат.*
*Арсень ішоў паперадзе сваіх,*
*Як метэор між воблакоў начных;*
*Калі ж заўважыў ён, што быў адзін*
*Сярод варожых для яго дружын,*
*Было ўжо позна! «Бачу час настаў!» –*
*Падумаў ён, і меч яго шукаў*
*Апошняе ахвяры. «Гэта ён!» –*
*За ім усклікнуў нехта. Як агонь*
*Апёк Арсеня, воін захацеў*
*Пасляць праклён, ды толькі не сумеў.*
*Анёлам бітвы ў лёгкім шышаку*
*Ўздымала Клара з шабляю руку;*
*І тоўпіліся юнакі за ёй,*
*Паглядам, пругка ўзнятаю рукой*
*Яна наперад рыцараў вяла*
*І, быццам лёс, ужо для іх была.*
*Перад Арсенем ні на міг яна*
*Не спалатнела, ні хаця б каня*
*Спыніла чуць.Быў голас грозны той,*
*Калі ўзмахнула белаю рукой*
*І выгукнула: «Рыцары Літвы,*
*Няма надзеі, покуль ён жывы,*
*Ваяр пыхлівы гэты! Перад ім*
*Усе бягуць, ды мы не пабяжым,*
*Хто першы мне яго пакажа кроў,*
*Таму мая рука, мая любоў!»*

### 24

*Ёсць манастыр, і там у тыдзень раз*
*За супакой малітва мае час.*
*Бывае часта, што ў царкве святой*
*Арсень успамінаецца парой.*
*І ззяе ў цэркве доўгі трунаў шыхт,*
*Гярбы бацькоў адсвечваюць на іх;*
*Ды толькі там не будзе блізка той,*
*Хто слаўны род закончыў іх сабой.*
*А ні дзірван, ні пышны маўзалей*
*Не ў цяжасць для сырых яго касцей;*
*Ніхто не плача, а ўсяго адна*
*Манахіня!.. Бог знае, хто яна?*
*Бог знае, што ў глыбі яе душы*
*Шкадобу да таго, хто так грашыў,*
*Сілкуе? Той яе не шкадаваў*
*І нават быць каханым не жадаў;*
*Нязмернае няшчасце ёй прынёс,*
*Ды хіба лепей з ім паладзіў лёс?*
*І як не плакаць вечна ёй аб тым,*
*Хто быў падмануты сабой самім,*
*З кім лёс развёў на дзірване зямным*
*І разам не звядзе на свеце тым.*
*У сэрцы смутным толькі можа жыць*
*Каханне, пра якое не забыць.*
*У трэшчыне скалы сяды-тады*
*Бярэзінкі так дубчык малады*
*Паселіцца і радасць нам нясе,*
*Хаця вакол упэўненыя ўсе*
*Што ёй адмераны не доўгі век.*
*Ці звер які, ці жорсткі чалавек,*
*Ці летні жар, ці сіверны мароз*
*Яе закончыць незайздросны лёс.*
*Пакуль жа дождж і вецер-ураган*
*Дарэмна трэплюць яе тонкі стан,*
*І пыльны ліст адданасці святой*
*Трапеча на галінцы маладой.*




## Абзвоненае адгукнецца

У гэта хочацца верыць. Бо ўрэшце ж у Мінску на прадпрыемстве «Выдатнае ліццё» зусім нядаўна паўторна адлілі самы вялікі звон для Свята-Троіцкага сабора ў Хоцімску, які быў закладзены яшчэ ў 1861 годзе ў гонар вызвалення сялян ад прыгоннага права і будаваўся на працягу ажно 12 гадоў на сродкі беларусаў, украінцаў і расіян. І хаця пасля 1917 года храм быў разрабаваны, усё ж нарэшце дайшлі рукі і да таго, каб агучыць і храм, і памежжа трох суседніх краін з яго адноўленай званіцы. Нездарма ж расіяне вялікі звон хоцімскага храма называюць няйначай, як дабравест. Бо весткі і сапраўды добрыя – вернікам ёсць цяпер куды пайсці памаліцца.

Зрэшты, у лістападзе не менш як стопудовы звон будзе выраблены майстрамі прадпрыемства «Выдатнае ліццё» і па заказе Гомельскай епархіі. На бронзе плануецца выграваваць лікі святых. Ужо ёсць шаблоны, вядуцца падрыхтоўчыя работы.

І вось тут самы раз звярнуцца нам да кавалёў, неадкладнай дапамогі з боку якіх чакаюць у тым жа Хоцімску. Ад 75-гадовага архімандрыта, настаяцеля Свята-Троіцкага сабора айца Кірылы мы даведаліся, што пакуль што ніяк не ўдаецца вялікі звон замацаваць на належным месцы, бо для гэтага патрэбны добры каваль, каб выкаваць для гэтага неабходныя надзейныя дэталі. Дык можа адгукнецца на такую заклапочанасць хто з удзельнікаў сёлетняга міжнароднага свята «Кавальскі майстар-клас», якое прайшло ў Віцебску і ў якім прынялі ўдзел больш за 30 кавалёў з Беларусі, Украіны, Расіі, Літвы? Будзем вельмі рады.

# Старадаўнія прафесіі

*(Раздзелы з кнігі)*

### Кучары

Кучар – той, хто кіруе запрэжанымі ў экіпаж коньмі. Пры канцы XIX, напачатку XX стагоддзяў спецыяльнасць гэтая была прэстыжная. Па сённяшнім разуменні, раўназначная персанальнаму кіроўцу. Асабістага кучара, як і выязных коней, мог мець далёка не кожны чыноўнік нават высокага ранга. Дзеля прэстыжу асабістыя кучары былі ў пасляховых гандляроў, чыноўнікаў уезднага маштабу, начальніка паліцыі, памешчыкаў. Калі дзейнасць чыноўнікаў патрабавала частых паездак, то выязныя коні з кучарам аплочваліся за казённы кошт.

У 20-я і пачатку 30-х гадоў XX стагоддзя асабістых кучараў мелі толькі багатыя памешчыкі – Станкевіч, браты Шчыты, Немiровіч, Друцкі-Любецкі і іншыя, а яшчэ некалькі багатых чыноўнікаў і лекараў. Памешчыкі ўтрымлівалі як выязных, так і верхавых коней. У абавязкі кучара ўваходзіў догляд за коньмі, ён сачыў за спраўнасцю экіпажа, каб адвезці пана, куды той пажадае. У багатых памешчыкаў было некалькі кучараў. У памешчыцкім доме для іх выдзялялася спецыяльнае памяшканне – кучарскі пакой. У некаторых памешчыкаў кучары мелі сваю уніформу.

Але паступова, у сярэдзіне 30-х гадоў, на змену коням прыйшлі аўтамабілі. Памешчыцкая эліта імкнулася ісці ўпоравень з тэхнічным прагрэсам. На дарогах Лунінеччыны з'явіліся нешматлікія аўтамабілі. Асабісты кучар быў заменены на асабістага кіроўцу.

### Лірнікі

Без сумніваў, многім чытачам вядомая назва старажытнага грэчаскага струннага музычнага інструмента – ліры. А вось наступныя яе відазмяненні, што сталі распаўсюджаным народным інструментам беларусаў і ўкраінцаў (вядомы інструмент і пад назваю «лера». – **«КГ»**), у нас ужо многімі забытыя. А яшчэ ў сярэдзіне мінулага стагоддзя на тых жа лунінецкіх ярмарках часцяком можна было пабачыць і пачуць вандроўных лірнікаў. Пераважна гэта былі жабракі – сляпыя, якіх суправаджалі хлапчукі-павадыры. Лірнікі зараблялі хлеб штодзённы спевамі пад акампанемент ліры. Часам з лірнікам хадзіў скрыпач.

Драўляная ліра, па форме нагадвае скрыпку, калі круціць ручку, мае скрыпучае гучанне. Пад яе густы акампанемент лірнік спяваў песні духоўнага і маралізатарскага зместу. Нярэдка ў ягоны голас уплятаўся пяшчотны дзіцячы галасок павадыра.

У залежнасці ад абставінаў – ярмарка ці рэлігійнае свята – была і тэма спеваў. Зазвычай жабракі-лірнікі не хадзілі па вуліцах, спяваючы песні пад ліру ды просячы падаванні. Яны наведвалі месцы найбольш людныя – цэрквы падчас звычайных рэлігійных і прастольных святаў, ярмаркі. Бывалі лірнікі і на вясковых вяселлях, ужо з зусім іншым рэпертуарам. У звычайныя ж дні жабракі-лірнікі са сваімі хлапчукамі-павадырамі ішлі па дарогах Лунінеччыны ад вёскі да вёскі, спяваючы свае песні, часам перадаючы навіны. Перасталі існаваць жабракі-лірнікі ў жніўні 1939 года.

Прафесія, калі гэта можна назваць прафесіяй, жабрака адрадзілася ў наш цяжкі час, ёсць сярод іх і музыкі, але лірнікаў – няма. У нашыя часы сапраўдную ліру можна пабачыць хіба ў краязнаўчым музеі (а таксама ў музыкаў, якія граюць фальклорную музыку, часам – царкоўную. – **«КГ»**).

***Леў КОЛАСАЎ***

***(Пачатак у № 16)***

*Рупліўцы роднага*

# Ярэміцкі вальс

***Нядаўна мы зноў сустрэліся. Як заўсёды, было шмат развагаў, размоў пра дзень сённяшні, успамінаў. Успамінаць нам ёсць пра што, агульных інтарэсаў шмат. Больш за 50 гадоў цягнецца наша сяброўства.***

Мікола Васілеўскі пачаў вучыцца на аддзяленні журналістыкі Белдзяржуніверсітэта ў 1953 годзе. Я ўжо быў на другім курсе. Пасля БДУ я трапіў у Ліду, ён – у Іўе. Прыехаў наведаць мяне.

– Сумна мне ў Іўі пасля Мінска, – паскардзіўся. – І гарадок маленькі, і людзей цікавых малавата, пагаварыць мала з кім знойдзеш. Ды і кватэры няма і не прадбачыцца.

– Перабірайся ў Ліду, – прапанаваў я. – На маё месца загадчыка аддзела пісьмаў.

Мяне тады прызначылі адказным сакратаром рэдакцыі газеты «Уперад». Рэдактар яе пагадзіўся – Мікола стаў лідчанінам, а жонка яго Марыя карэктарам у рэдакцыі. Неўзабаве і кватэру атрымалі ў новым доме, з усімі зручнасцямі.

Тады і пазнаёміўся з Міколам бліжэй – як з працаўніком, як з чалавекам, як з сем'янінам. Ахайнасць, прафесійная цікаўнасць, дасціпнасць, імкненне дакапацца да сутнасці падзеі, з'явы, сэнсу жыцця, побыту – характэрныя рысы. За гэта падабаўся ён не толькі ў сваім калектыве. Цікавы такі эпізод з яго жыцця. У 1959 годзе ён апынуўся на вайсковых зборах з супрацоўнікам рэдакцыі «Гродзенскай праўды» Васілём Быкавым. Па натуры яны амаль аднолькавыя – працавітыя, уедлівыя, яршыстыя. Дазволю працытаваць кавалачак свайго нарыса «На пачатку славы» пра В. Быкава з маёй кніжкі «Сяброўствы. Знаёмствы. Сустрэчы», выдадзенай у 1992 годзе:

*«Жыў з ім (Быкавым) у адной казарме. Іх ложкі аказаліся побач. А тумбачка дасталася адна на дваіх. Васіль Уладзіміравіч і на зборах выкройваў час пісаць. Сядаў на ложак, клаў на калені вялікі блакнот – і доўга не разгінаўся. Аднойчы Мікола спытаўся, што той піша.*

*– Другі варыянт «Трэцяй ракеты».*

*– Але ж перад табой няма першага варыянта.*

*– А ён у мяне ў галаве.*

*Яны пра многае гаварылі. Не заўсёды пагаджаліся адзін з адным, часам спрачаліся.*

*Мікола быў у захапленні ад Быкава. Гаварыў, нібы пераконваў мяне:*

*– Выдатны чалавек. разумны. Жыццё пабачыў, ведае яго. Галоўнае – мае сваю думку, свой погляд. І не баіцца выказваць іх.*

*Мікола памаўчаў, падумаў:*

*– Паглядзіш, ён далёка пойдзе. Друкаваўся пакуль не шмат. Але кніжку здаў у выдавецтва. Свой у Васіля стыль, сваё бачанне чалавека».*

Калі пабачыла свет кніга «Жураўліны крык», Быкаў падарыў яе Міколу з надпісам: журналісту і аднапалчаніну. Каму трапляўся той надпіс, ускідваў на Міколу вочы: няўжо ён быў з Быкавым на фронце?

Добрыя узаемаадносіны са славутым пісьменнікам працягваліся ў Міколы ўвесь час, яны зрабілі на яго вялікі ўплыў. Мікола раўняўся на яго ў праўдзівасці, у сумленнасці падачы фактаў, у асэнсаванні жыцця, якое выпала ў наш век надзвычай імклівым, бурным, супярэчлівым, цікавым, часам трагічным.

Неўзабаве Мікола пераехаў у Навагрудак. Мы зноў апынуліся побач, суседзямі: ён уласным карэспандэнтам «Гродзенскай праўды», а я ў Нясвіжы «Мінскай праўды». Аднойчы ён пазваніў:

– Прыедзь, хоць пагаворым.

Я ўпершыню ўбачыў старажытны горад. Асабліва ўразіла старына. Ад рэшткаў замка, з кургана Міцкевіча далёка была відаць непаўторная краса Навагрудчыны. Гэты край – радзіма Міколы. Яго вёска Сіняўская Слабада, што побач з Ярэмічамі ў Карэліцкім раёне.

Паўвека аддаць журналістыцы, па сабе ведаю, – справа вельмі нялёгкая. Увесь час «на калёсах», у камандзіроўках. Бясконцыя рэдакцыйныя заданні. Тэрміновыя. Абавязковыя. Сёння паехаў – заўтра здай матэрыял у нумар. А там, глядзіш, нешта не ладзіцца – то чалавека патрэбнага не застанеш, то «факты не выб'еш», якія трэба, то здаецца часам, кінуў бы такую нервовую працу, ды дзе там: цягне ў дарогу, да людзей, да сустрэч з імі.

Мікола аб'ехаў усю Беларусь. Допісы за подпісам «М. Васілеўскі» часта з'яўляліся ў абласным і рэспубліканскім друку. Рэпартажы, нарысы, артыкулы, інтэрв'ю, інфармацыі... Розныя жанры. Розныя тэмы. Нямала праблемных, крытычных, пастановачных матэрыялаў. Шмат пісаў на маральныя тэмы. І – краязнаўства, гісторыя.

Край Міколы Васілеўскага багаты на таленты, на гісторыю, на помнікі даўніны. Сярод апошніх – сусветна вядомы Мірскі замак, Любчанскі замак, Шчорсаўскі палац. Гэты куток Беларусі ўслаўлены імёнамі Адама Міцкевіча, Яна Чачота, іншых пісьменнікаў. Тут нарадзіліся сучасныя літаратары – Янка Брыль, Вольга Іпатава, Уладзімір Калеснік, Раман Тармола, Яўген Лецка. З імі Мікола, як кажуць, знайшоў агульную мову.

Зрэшты, пра мову. Ён заўсёды гаварыў толькі па-беларуску. З усімі і паўсюль. І заўсёды любіў і любіць усё беларускае. Але не бяздумна, не фанатычна, а натуральна, як і належыць любіць свой народ, яго мову, вялікую культуру, гісторыю. І культуру гэтую, існую беларускасць ён бачыў найперш у чалавеку – у беларусе. Добра сказаў пра гэта ў прадмове да сваёй кнігі «Пракосы». Вобразна параўнаўшы, абагуліўшы касца ў Асобе, з чалавекам, які крочыць па нашай зямлі, напісаў:

*«А пад касою трапляюцца карчы і купіны. А то наскочыць каса на камень – ажно іскры пасыплюцца. А трава пад нагамі то мяккая, шаўкавістая – як дыван сцелецца; то калючая, жорсткая – як драцяная...*

*А касец ідзе!*

*Пройдзены пракос другі раз не пройдзеш, але на яго можна азірнуцца.*

*Пражытае жыццё не пражывеш зноўку, але яно вучыць, як жыць далей.*

*Як пракосы на сенажаці, сцелюцца па нашай зямлі людскія лёсы. Сотні, тысячы розных – і самых звычайных, і вельмі незвычайных – лёсаў».*

Мікола шукаў, знаходзіў, даследаваў гэтыя лёсы, думаў, перажываў, прапускаў іх праз сваё сэрца – і падаваў чытачам хвалюючыя нарысы. Не толькі ў названай кніжцы, але і на старонках галоўнай беларускамоўнай газеты «Звязда», у рэдакцыі якой працаваў, на старонках газеты для суайчыннікаў за мяжой «Голас Радзімы», якая распаўсюджвалася амаль у пяцідзесяці краінах свету, у іншых выданнях.

Як журналіст, даследчык гісторыі, краязнавец М. Васілеўскі шмат зрабіў карыснага. І на пенсіі працягвае рабіць. Ён не страціў з гадамі – а яму ў сённяшнім лістападзе будзе 70 – бадзёрасці, цікаўнасці да жыцця, да лёсу Беларусі, да лёсу свайго краю.

– Што не кажы, – лічыць ён, – а народ наш неяк пацiху драбнее, траціць пачуццё грамадзянскасці, траціць, не баюся сказаць гэта, гонар за сваю Айчыну. Нейкі палахлівы стаў, абыякавы.

І ён стараецца абудзіць гэтае «пачуццё грамадзянскасці», удыхнуць у сваіх землякоў павагу да свайго мінулага, да гісторыі і культуры, па-ранейшаму даследуе іх. Нядаўна, напрыклад, надрукаваў у двух нумарах карэліцкай раённай газеты нарыс пра былых яе рэдактараў. Стараецца ўдыхнуць у мастацкую самадзейнасць жывінку, пачуццё патрыятызму да Беларусі – праз павагу да свайго роднага кута.

Я паўвека ведаю, як Мікола любіць народную творчасць, народную песню. Неаднойчы згадваў, як у Лідзе ён напяваў сваю любімую:

*Ой, мяцеліца, ты, мяцеліца,*
*Ўсе дарожкі замяла.*
*Як мне дзяўчыне,*
*Як мне дзяўчыне*
*Ехаць з мілым да сяла?*

Наднёманскі край, занёманская Налібоцкая пушча, бацька Нёман, родныя краявіды...

– Так і стаяць яны перад вачыма, так і хочацца спяваць пра іх. Душа просіць. А мелодыя сама кладзецца, і словы ад сэрца ідуць.

У Міколы «прарэзаўся» яшчэ адзін талент, відаць, правільна назваць яго – музычна-паэтычны.

– Іншы раз так нахлыне, што адбою няма. І словы, і музыка, ну, не даюць спакою. Паслухай.

І ён заспяваў. Прыплюшчыў вочы, адкінуўшы галаву. Нібы ўглядаўся ў тую наднёманскую красу.

*І гамоніць рачулка імклівая,*
*Туманы на лугах рассцілаючы,*
*Пра такое знаёмае, мілае.*

Пасля мая дарослая ўнучка сказала мне:

– Голас у яго – што трэба. Не тое, што ў цяперашніх эстрадных шаптуноў. Слухаеш – і нібы бачыш тое, пра што чалавек спявае.

А жыхарам Ярэмічаў асабліва спадабалася Міколава песня «Ярэміцкі вальс».

*Кружацца, кружацца пары,*
*Ім усміхаецца месяц.*
*Зноў мы танцуем пад клёнам*
*Даўнейшы*
*Ярэміцкі вальс.*

Мікола і ў свае семдзесят не ведае спакою. Сустракаецца з людзьмі, вывучае, даследуе. Сваімі ведамі дзеліцца з землякамі. Невыпадкова яго называюць «хадзячай энцыклапедыяй».

Падтрымлівае сувязь з мастацкай самадзейнасцю, арганізоўвае яе. Пры яго ўдзеле ладзілася ў Сіняўскай Слабадзе (памясцоваму – Сіняўцы) свята вёскі. З мастацкім кіраўніком Ярэміцкага Дома культуры Янінай Навумовіч, акампаніятарам ДК Таццянай Бразоўскай, бібліятэкарам з Сіняўскай Слабады Ірынай Станкевіч старанна рыхтаваліся да свята вёскі. Мікола расказаў пра яе гісторыю, пра людзей. Прагучалі яго «Балада пра Сіняўку», песня пра яе.

Нядаўна Мікола вярнуўся з Іўя, з абласнога фестывалю мастацкай самадзейнасці. Там выканаў «Песню пра Нёман».

Песень у яго шмат. Не толькі на свае словы. «Часам, – сказаў, – мелодыя ўзнікае, калі вельмі западзе ў душу нечы верш». Так узніклі вершы на словы Ул. Хадыкі, М. Багдановіча, С. Законнікава, Ул. Някляева, М. Бусько, А. Мілюця, Р. Тармолы, Я. Еўтушэнкі, Б. Пастэрнака.

Такі ён – шчыры руплівец усяго роднага, беларускага.

***Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ***

## Ксёндз Булька змагаецца за чысціню наваколля і душы

***Пра Мосарскі касцёл і ксяндза Ёзаса Бульку ўжо неаднойчы пісалася. Тое, як сваім прыкладам і шчырай любоўю да вяскоўцаў ён прышчэплівае ім культуру, здаровы лад жыцця, заслугоўвае ўвагі.***

Вёска Мосар знаходзіцца ў Глыбоцкім раёне, за 20 кіламетраў ад раённага цэнтра. Кожны, хто туды прыязджае, здзіўляецца прыгажосці і дагледжанасці тых мясцін, а некаторыя нават называюць вёску маленькай Швейцарыяй.

Ксёндз Ёзас Булька прыехаў у вёску з Літвы ў 1987 годзе. Першае, за што ён узяўся, гэта навядзенне парадку на тэрыторыі вакол касцёла святой Ганны. Потым прывялі ў парадак мясцовыя могілкі, дарогу ад касцёла да могілак абсадзілі маладымі елкамі.

Парадкам у вёсцы ганарацца ўсе жыхары, і цяпер падтрымліваюць ксяндза ва ўсіх пачынаннях і вернікі, і атэісты.

А нястомны 79-гадовы Ёзас Булька цяпер хоча выкараніць у вяскоўцаў традыцыю п'янства. Пры касцёле арганізаваў антыалкагольны музей. Тут нават ёсць кніга, у якую жадаючыя запісваюць свае абяцанні не піць гарэлку.

Каля добраўпарадкаванай тэрыторыі Мосарскага касцёла праводзіцца шмат розных свят. У ліпені прайшло нават Купалле, на якое прыехала шмат гасцей з суседніх вёсак. Усе вернікі ведаюць, што вянчанне, хрышчэнне і г.д. пры ўдзеле ксяндза Булькі абавязкова будуць без спіртнога, і пагаджаюцца з гэтым правілам.

*Галіна ВІР,*
*«Голас Радзімы»*



*У Мосары, каля касцёла святой Ганны*
*Фота Уладзіміра ПУЧЫНСКАГА*

# Паклікаль эпохаю

*(Заканчэнне. Пачатак у № 39)*

Не цяжка заўважыць, з якой цеплынёй і прыхільнасцю адносіцца аўтар да Садовіча. Не па гадах жыццёвая сталасць, рашучасць, зычлівы гумар, упэўненасць – і чытач разам з Лабановічам пранікаецца павагай і любоўю да гэтага «зачыншчыка і крамольніка».

А вось Лабановіч прыязджае на з'езд, і яго сустракае «гурт маладых, бадай што ўсіх знаёмых, настаўнікаў», і ў гэтым «натоўпе быў Садовіч як лідэр». Школа Садовіча стала прыстанню для ўсіх, хто прыехаў, падаў голас за свае правы, прыехаў, каб палажыць першы камень у аснову таго ўяўнага «сонца».

Усведамляючы, што без падтрымкі сялян на поспех разлічваць нельга, «Садовіч часта вёў з Шуськам і Раткевічам гутаркі, навучыў іх трохі разбірацца ў палітыцы. «Гэта наша апора, без народа ў нашых справах не наваюеш», – казаў Садовіч Андрэю», і «Лабановічу стала зразумела, што гаворкі, якія ён і Садовіч вялі з сялянамі, не прапалі марна. «Маладзец Бас! – пахваліў ён у думках Садовіча. – Сапраўды гэта наша апора!» У рамане перададзена любоў і павага сялян да сваіх абаронцаў: калі паліцыя хацела арыштаваць удзельнікаў з'езда, народ дружна заступіўся за іх і не аддаў у рукі «архангелаў»...

Апынуўшыся ў Злучаных Штатах, Аляксандр Сянкевіч зведаў цяжкі лёс эмігранта. Працаваў на будаўніцтве, на лесараспрацоўках, быў лаўцом вустрыц. Сутыкнуўшыся з амерыканскай «свабодай» і «роўнасцю», ён актыўна ўключыўся ў барацьбу за правы працоўных: у 1907 г. стаў членам амерыканскай сацыялістычнай партыі, у партыйным друку змяшчаў публіцыстычныя артыкулы, праводзіў значную работу ў калоніях эмігрантаў з Беларусі, Расіі, Украіны, Польшчы.

З 1913 г. Сянкевіч пачаў працаваць у савеце арганізацыі «Індустрыяльныя рабочыя свету». Адначасова вучыўся і паспяхова закончыў Балтыморскі інстытут дактароў і хірургаў. Медыцынскую практыку ён спалучаў з актыўнай дзейнасцю, у якой дапамагала жонка – Ганна Трызна, таксама беларуская эмігрантка. (Уражанні ад жыцця на амерыканскім кантыненце вылiліся пазней у аповесць «Вандраванне Васіля», якая выйшла асобнай кнігай у 1932 г. у Мінску.)

Даведаўшыся, што ў Расіі адбылася рэвалюцыя, А. А. Сянкевіч вярнуўся на Радзіму. Праз Японію ён дабраўся да Уладзівастока. Спачатку Аляксандр Антонавіч працаваў урачом Іванаўскага ўчастка Нікольска-Усурыйскага павета Прыморскай вобласці, а пасля быў абраны членам Прыморскай абласной земскай управы. Разам з працоўнымі Далёкага Усхода Сянкевіч выступіў на абарону маладой Рэспублікі Саветаў супраць іншаземных інтэрвентаў. У канцы чэрвеня – пачатку ліпеня 1919 г. у вёсцы Сяргееўка адбыўся з'езд працоўных, які выбраў Сяргея Лазо камандуючым усімі партызанскімі атрадамі Прымор'я. У склад выканкама з'езда ўвайшоў А. Сянкевіч.

У партызанскім атрадзе Аляксандр Антонавіч арганізаваў шпіталь. Тут ён быў прыняты ў члены Камуністычнай партыі. Адступаючы, партызаны эвакуіравалі шпіталь у вярхоўе ракі Сучан, за вёску Малчанаўка. У цяжкіх умовах доктар Сянкевіч выратаваў жыццё многім параненым партызанам. Стомлены баямі, пастаяннымі галадоўкамі, цяжка захварэў Сяргей Лазо. Як расказвае ўдзельнік грамадзянскай вайны Леў Перлін, Сянкевіч літаральна вырваў камандуючага атрадамі з рук смерці.

А. А. Фадзееў, адзін з удзельнікаў партызанскай барацьбы на Далёкім Усходзе, задумаў у 1921 г. напісаць кнігу аб грамадзянскай вайне. Працуючы партызанскім агітатарам, Аляксандр Булыга (Фадзееў) міжволі з'явіўся назіральнікам тых падзей, якія ляглі крыху пазней (у 1925–1926 гг.) у аснову яго рамана «Разгром». Нягледзячы на невялікую колькасць персанажаў твора (з эпізадычнымі іх каля 30) і кароткі час дзеяння (каля двух-трох месяцаў), пісьменнік здолеў па-майстэрску паказаць жыццёвасць ідэй змагання, супярэчлівасць некаторых характараў, стварыць непаўторны вобраз важака.

Знаёмства Аляксандра Фадзеева з Аляксандрам Сянкевічам паслужыла пісьменніку матэрыялам для стварэння ў рамане вобраза доктара Сташынскага. «Варта прачытаць «Разгром» Сашы Фадзеева, – піша ва ўспамінах пра А. Сянкевіча камандзір 1-га Далёкаўсходняга савецкага партызанскага палка Мікалай Кірылавіч Ільюхоў, – менавіта тыя месцы яго кнігі, дзе ён піша аб партызанскім шпіталі і яго жыхарах, варта прачытаць дзённікавыя запіскі пісьменніка, і стане ясна, як любіў нашага цудоўнага лекара нябожчык А. А. Фадзееў».

У рамане выразна намаляваны партрэт Сташынскага: «Высокі, нягнуткі мужчына з доўгім і жоўтым тварам, з глыбока запалымі бліскучымі вачыма». Пісьменнік, добра валодаючы майстэрствам дэталі, даў некалькі скупых, але важкіх біяграфічных звестак пра Сташынскага, у двух-трох эпізодах здолеў раскрыць характар гэтага замкнутага і самаахвярнага чалавека.

Вайна злучыла ў адным атрадзе Левінсона, Бакланава і Мяцеліцу, Сташынскага, Дубава і Ганчарэнку, Марозку, Вару і Мечыка, злучыла, каб выпрабаваць іх гарт і адсеяць «усё няздольнае да сапраўднай рэвалюцыйнай барацьбы». У партызанскім шпіталі аўтар зводзіць Сташынскага і Мечыка, падкрэслівае розніцу іх поглядаў на жыццё, на свой абавязак. Пытанне Мечыка: «А вось вам як?.. Вечна ў лесе» – не знайшло чаканага адказу. Словы Сташынскага: «А калі трэба?» – не зразумеў Мечык, бо для яго не існавала дылемы паміж «трэба» і «хочацца». Мечык бачыць рашучасць і сілу ў вачах Сташынскага, «бліскучых і чорных», хаця яны «пазіралі неяк здалёк і маркотна, быццам увабралі ўсю невымоўную журбу па людзях, якая доўгімі начамі сушыць сэрца ў таёжных адзіночак каля чадных сіхотэаліньскіх кастроў, раскладзеных у пушчы».

Ёсць у рамане мастацка-вобразная паралель Сташынскі – Левінсон. Мужны, разважлівы, разумны Левінсон трымае атрад у строгім парадку. Праўда, часам закрадуцца і ў яго сэрцы сумненні. «Аднак ніхто, апрача Сташынскага, не ведаў, што Левінсон наогул можа хістацца: ён ні з кім не дзяліўся сваімі думкамі і пачуццямі, падносіў ужо гатовыя «так» або «не». Таму ён здаваўся ўсім – за выключэннем такіх людзей, як Дубаў, Сташынскі, Ганчарэнка, якія ведалі яго праўдзівую цану, – чалавекам, асобай правільнай пароды». Сташынскі і Левінсон падтрымлівалі моцную сувязь, дзяліліся планамі далейшых мерапрыемстваў і баявых дзеянняў.

З прыходам восені шпіталь пачынае «разгружацца». Застаюцца двое: безнадзейны Фралоў і амаль здаровы Мечык. Заставацца ў шпіталі Сташынскаму з-за аднаго Фралова, у якога «ніякіх надзей», Левінсон лічыць небяспечным і дарэмным. І доктар вымушаны даць хвораму вялікую дозу морфію. Верагоднасць факта вымушанай смерці партызана, апісанага А. Фадзеевым, пададзена ва ўспамінах М. К. Ільюхова:

«У гэтых, здавалася, невыносных умовах Сянкевіч выратаваў усіх раненых, збавіў іх ад гангрэн, вылечыў, акрамя... акрамя аднаго партызана. Ім быў шахцёр Сучанскіх капальняў Байкоў. Ранены ён быў у жывот. Разрыўная японская куля развярнула ў яго ўвесь кішэчнік. Сянкевіч рабіў усё, каб выратаваць раненага. Але гэта была зацікаўленасць чалавека вялікай душы. Свядомасць лекара гаварыла аб іншым. Ён разумеў, што справа тут безнадзейная...

Сянкевіч накіраваўся ў шалаш, дзе ляжаў Лазо. Ён рашыў параіцца з камандуючым. Лазо спытаў: «Ёсць якая-небудзь надзея выратаваць раненага?» Сянкевіч адказаў, што надзеі няма. Удвух яны рашылі дапамагчы раненаму. Цяжкі лёс выпаў Сянкевічу! Мужны, нязломны чалавек... рыдаў, калі даваў раненаму партызану моцную дозу морфію. Партызан заснуў навек спакойным. Лазо, хаваючы ад Сянкевіча, расказаў мне потым аб трагедыі гэтага чалавека (Сянкевіча – **А. К.**), і Аляксандр, таксама хаваючы ад Лазо, расказваў мне, як камандуючы стаяў за дзвярыма шалаша і таксама плакаў».

Літаратуразнавец А. Бушмін пісаў пра герояў і персанажаў рамана: «Сістэма вобразаў «Разгрома», узятая ў цэлым, адлюстравала рэальна-тыповыя суадносіны асноўных сацыяльных сіл нашай рэвалюцыі. У ёй удзельнічалі: пралетарыят, сялянства і інтэлігенцыя, кіруемая Камуністычнай партыяй. Адпаведна гэтаму ў «Разгроме» паказаны: «вугальнае племя», якое ідзе ў авангардзе барацьбы, сяляне, інтэлігенцыя ў яе станоўчых (Сташынскі) і адмоўных (Мечык) тыпах, бальшавік-камандзір Левінсон» (*Бушмин А.* Роман А. Фадеева «Разгром». Л., 1954. С. 47).

Як было адзначана вышэй, вобраз доктара Сташынскага А. Фадзееў пісаў з Аляксандра Сянкевіча. Усё ў ім рэальнае, біяграфічнае, за выключэннем аднаго: у рамане Сташынскі гіне, у жыцці – застаецца жывым.

Не толькі Фадзееў увекавечыў А. Сянкевіча. Дзейнасць гэтага сумленнейшага чалавека, беззапаветна адданага Радзіме, адлюстравана ў кнігах успамінаў, мемуарах былых удзельнікаў грамадзянскай вайны, а таксама ў мастацкіх творах. М. М. Мацвееў-Бодры пісаў: «Мы, прыморцы, ганарымся А. А. Сянкевічам, і хаця ён сын Беларусі, але і для нас гэты цудоўнейшы чалавек не менш дарагі і мы лічым яго сваім земляком». Юрый Лясота ў кнізе «Чырвоная восень» (*Лясота Ю.* Красная осень. Владивосток, 1965) успамінае Сянкевіча пад прозвішчам Станкевіч.

У сакавіку 1920 г. Аляксандр Сянкевіч з сям'ёй пераехаў у Хабараўск і быў вылучаны на пасаду камісара земляробства краю.

...А з роднай Беларусі прыходзілі невясёлыя весткі. Першая сусветная і грамадзянская войны, белапольская акупацыя спустошылі край. Неабходна аднаўляць гаспадарку. У эканоміцы, асвеце, медыцыне – усюды патрэбны былі кваліфікаваныя кадры. У сярэдзіне 1921 г. А. Сянкевіч вярнуўся ў Беларусь. Пастановай Саўнаркома БССР ён адразу пасля прыезду прызначаны наркомам аховы здароўя рэспублікі. Аляксандр Антонавіч рабіў усё магчымае, каб наладзіць медыцынскае абслугоўванне насельніцтва, упарадкаваць сельскія і гарадскія бальніцы, зменшыць лік ахвяр ад тыфу, туберкулёзу. На старонках рэспубліканскіх газет ён пастаянна выступаў па розных медыцынскіх і санітарна-асветніцкіх пытаннях. Па ініцыятыве наркома аховы здароўя ў 1922 г. скліканы з'езд медыцынскіх работнікаў сельскай мясцовасці Беларусі, пасля – Усебеларускі з'езд работнікаў аховы здароўя.

А. Сянкевіч удзельнічаў у рабоце шэрагу з'ездаў Кампартыі Беларусі і Усебеларускіх з'ездаў Саветаў. На X з'ездзе КП(б)Б выбраны кандыдатам у члены ЦК, на XI–XIII з'ездах – членам ЦК КП(б)Б, быў членам бюро ЦК КП(б)Б, з'яўляўся членам Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта БССР.

З грамадскай дзейнасцю Аляксандр Сянкевіч спалучаў літаратурную. Першы нумар «Маладняка» змясціў яго артыкул «Фізічнае выхаванне на вёсцы» (наогул, ён надаваў значную ўвагу развіццю фізкультуры і спорту, быў адным з першых папулярызатараў іх на Беларусі). У невялікай брашуры «Слова пра евангелістаў» Сянкевіч выкрываў рэлігійную секту, паказваючы яе лжывыя мэты, раскрываючы яе сацыяльныя карані ў розных краінах – Расіі, ЗША, Германіі. Часопіс «Полымя» друкаваў яго ўспаміны аб рэвалюцыйных падзеях у 1905–1907 гг., пачатак аповесці «Вандраванне Васіля». У 1923 г. Сянкевіч прызначаны рэдактарам часопіса «Полымя».

Працуючы на агітацыйна-прапагандысцкай рабоце, прымаючы ўдзел у літаратурным жыцці рэспублікі, А. А. Сянкевіч быў у рэдакцыйнай калегіі па выданні твораў У. І. Леніна на беларускай мове.

Рост прамысловасці, развіццё сельскай гаспадаркі, культурнае будаўніцтва – усё гэта патрабавала спецыялістаў. Камуністычны універсітэт нацыянальных меншасцей, пры якім адкрыўся беларускі сектар, з'яўляўся адной з буйнейшых тагачасных устаноў, што рыхтавала для саюзных рэспублік высокакваліфікаваныя кадры. 20 снежня 1924 г. Сянкевіч быў прызначаны загадчыкам гэтага сектара і выехаў у Маскву. З чэрвеня 1926 г. ён працаваў дацэнтам кафедры гісторыі партыі і ленінізму на факультэце права і гаспадаркі ў Белдзяржуніверсітэце. У лістападзе 1928 г. Сянкевіч прызначаны рэктарам Мінскага Камуністычнага універсітэта імя Леніна, адначасова загадчыкам аддзелаў друку, культуры і прапаганды ЦК КП(б)Б.

***Член Нацыянальнай Камісіі ЦВК БССР, дырэктар Інстытута літаратуры і мастацтва Акадэміі навук БССР, дырэктар Інстытута камунальнай санітарыі Наркамата аховы здароўя РСФСР, намеснік адказнага рэдактара аддзела «Апошніх паведамленняў» Камітэта па радыёфікацыі і радыёвяшчанні пры Савеце Народных Камісараў СССР... Усё, чым жыла Беларусь, краіна, хвалявала гэтага чалавека, але ў 1938 годзе Аляксандр Сянкевіч быў беспадстаўна рэпрэсаваны і толькі ў 1956 годзе рэабілітаваны.***

***Алесь КАМАРОЎСКІ,***
***пісьменнік, в. Мікалаеўшчына***

## Сусветны дзядзінец

**Каля 980 г.** дачка забітага полацкага князя Рагвалода Рагнеда была гвалтам вывезена ў Кіеў і стала жонкай захопніка – вялікага князя кіеўскага Уладзіміра, нарадзіла такіх вядомых князёў, як Яраслаў Мудры і Ізяслаў Уладзіміравіч (апошні княжыў у Заслаўі, аднавіўшы полацкую княжацкую галіну).

**1782.** У Швейцарыі зафіксаваны апошні вядомы выпадак пакарання смерцю за вядзьмарства (пакарана смерцю Анна Гельдзі).

**1784.** Адбыўся першы паказ оперы «Агатка» М.Радзівіла. Пастаноўка была прымеркавана да візіту ў Нясвіж караля Рэчы Паспалітай Станіслава Панятоўскага. Пасля ўдалага дэбюту «Агатка» некалькі дзесяцігоддзяў ставілася ў тэатрах Варшавы, Кракава, Любліна, Познані.

**1927.** Амерыканская кіназорка Номра Талмадж выпадкова пакідае адбітак сваёй ступні на незастылым асфальце, што падштурхоўвае да ідэі стварэння ў Галівудзе алеі адбіткаў ног кіназорак.

**1946.** У час паказу мод у Парыжы мадэльер Луі Рыэрд прадстаўляе новы жаночы купальнік. Манекеншчыца Мішлэн Бернардзіні выходзіць на подыум, прыкрытая дзвюма вузкімі палоскамі матэрыі. Касцюм адразу ж атрымлівае назву бікіні – паводле імя атола, над якім чатырма днямі раней ЗША правялі выпрабаванне атамнай бомбы. Відавочна, шок ад новай мадэлі быў не меншы, чым ад ядзернага выбуху.

**1980.** Прадстаўніца Індыі Шакунтала Дэві дакладна перамнажае ў галаве дзве 13-значныя лічбы (7 686 369 774 870 на 2 465 099 745 779), якія адвольна выбраў камп'ютэр. Правільны адказ (18 947 668 177 995 426 462 773 730) яна дае праз 28 секунд, сусветны рэкорд.

*Гаспадары, гэта што ж у вас вырасла?!*

*Фольк-мадэрн*

# Генерал прагне новых перамог

*«Pete Paff» – «Паглыбленьне», Мн., 2004, «Pete Paff Inc.»*

ГЭТАЯ РЭЦЭНЗІЯ рыхтавалася адмыслова для кнігі «100 альбомаў беларускага року... і не толькі» акурат тады, калі наш з А.Мяльгуем том быў ужо завершаны і нават атрымаў нядрэннае паблісіці ў прэсе, а пра будучы альбом чарговага праекту Піта Паўлава толькі легенды хадзілі: то «Музыкальная газета» грэбліва назвала яго «хатнім пахавальным аркестрыкам», то радыё «Polonia» захоплена распавяло пра міжнародны супольны праект, дзе «Pete Paff» граў на адной сцэне ў міжнародным супольным праекце разам з амерыканцамі, яўрэямі ды палякамі... Карацей кажучы, думкі самыя процілеглыя, але заўсёды вельмі неабыякавыя. Натуральна, такога прадукту не магла абмінуць наша кніга, і яшчэ перад выхадам альбома ў свет я напрасіўся да зоркі ў госці.

Гасцінная хата на вуліцы Захарэвіча, нейкая экзатычная гарбата з не менш экзатычным печывам, утульная мастацкая і мастакоўская атмасфера – усё гэта было прыемна, але неяк мімаволі выцеснілася ў маёй свядомасці ўражаннямі ад унікальных музычных рарытэтаў з калекцыі Піта. Мы ўсё ведаем пра англійскія дыскі «Крамы», галандскую «Троіцу», польскі «Ulis», а пра салідную міжнародную дыскаграфію галоўнага рок-гітарыста краіны няма каму і распавесці: з ягонага ўдзелу ў амерыканскіх, нямецкіх, польскіх ды іншых выданнях можна было б скласці глабальны live-альбом. Ды што казаць: Піта Паўлава запісваў нават саўндпрадзюсер славутага Пэта Metheny.

Нягледзячы на адметную энерґетыку рокавай гітары Піта, гук ягонага праекту «Pete Paff» хутчэй мягкі, пяшчотны, чым востры. Тым не менш зноў жа дастаткова энэрґетычны. Ды грае ён тут яшчэ на домры, вурганах і шмат на чым яшчэ. Аснову дыска склалі фалькавыя рэчы, таму напачатку нават была ідэя назваць яго «Вясковы». Але Піт заўважыў, што гэта было б кардынальнай памылкай, выклікана й памылкамі адукацыі: маўляў, фальклор –выключна сялянская архаіка. Асэнсаванне такой таямнічай стыхіі не павінна гэтак утылітарна звужацца. Многія песні насычаны папросту агульначалавечым зместам, хоць дзея ў іх адбываецца нібыта на сялянскім пленэры.

Дый хіба ж «Маршалак», «Ой, на Яна Купала», «Паглыбленне» такія ўжо тыпова вясковыя песні? Яны вясковыя настолькі, наколькі і гарадскія. Апошняя з названых дык і ўвогуле аўтарскі інструментальны абразок. І жаданне глыбей прэзентаваць сутнасць беларускага фальклору падала Піту ідэю зрабіць яго загалоўным трэкам альбому.

ШЭРАГ ТВОРАЎ дыска, калі хто не надта абазнаны ў айчынным фольку, сам Піт паспеў прадставіць публіцы ў сваіх шматлікіх жывых канцэртах, у тэлепрэм'ерах (гл. музычна-публіцыстычныя праграмы «Настаўніцкая», «Добрай раніцы, Беларусь!», «Кропка», «Аднакласнікі»). Гэта «Дрэме Дрома», «Перапёлачка», «Вяне рута», «Зялёны сад вішнёвы». А мне асабіста цікава было пачуць зусім іншую версію песні «Касіў Ясь канюшыну», якую Піт пачуў не ад «Песняроў», а вынес з уласных сямейных традыцый.

Уражвае і добра знаёмая ўсім песня «Там каля млына», якая ў свой час была нават аб'ектам конкурсных змаганняў у інтэрпрэтацыях на рок-фестывалі «Юнацтва Палесся». Колькі розных апрацовак яе здолеў я пачуць тады ў Салігорску, але Піту ўсё ж удалося мяне здзівіць.

ЗАЎВАЖАЮ, ШТО неяк занадта перацягваю ўвагу на самога Піта, які хоць і лідэр гэтага гурта, канцэптуальны крэатар, але ўсё ж не адзіная асоба. Побач з ім над стварэннем новага брэнда працавалі і маладыя музыкі Кастусь Карповіч (пузон), Сяржук Шэпелеў (туба), надзвычай таленавітая цымбалістка Наста Нямшон; і людзі ўжо з пэўным імем: бубнар Андрэй Сапоненка («P.L.A.N.», «ħygimont VAZA» ды інш.), а таксама былы журналіст, а цяпер зацяты фанат леры, дуды, жалейкі, акарынаў і вурганаў Яраш Малішэўскі.

Яны рабілі свой альбом вельмі доўга: абкатвалі праграму на розных зборных канцэртах, шукалі адпаведны гук, які нікога б не паўтараў ні на айчынным рынку, ні на заходнім... Больш шчыльна заняцца працай гурту дапамагла перамога Піта на буйнейшым рок-фестывалі краіны «Генералы айчыннага року». З'явіліся хоць нейкія грошы для старту. Я доўга не мог уявіць, што тут будзе ў выніку, а калі пачуў пра ідэю адмысловай праграмы міжнародных кавер-версіяў (перакробак) у беларускім фольк-ключы, дык нават раіў музыкам з замежных хітоў і пачаць, каб больш імпэтна ўскочыць з новым гукам у наш даволі шчыльны рынак, але першае ж праслухоўванне дэма-версіі альбома пераканала, што «Pete Paff» больш імпэту выявіць акурат самастойнымі ідэямі. Так і сталася.

***Вітаўт МАРТЫНЕНКА***

# Малая краязнаўчая энцыклапедыя

***(Пачатак у № 1 за 2003 г.)***

БАЛАДА (ад правансальскага танцаваць). 1. У беларускім, як і ва ўсім славянскім фальклоры – ліра-эпічная песня з напружаным сюжэтам, дзе апавядаецца пра незвычайныя, часта трагічныя падзеі ў пэўным чалавечым жыцці са смуткам ці жальбою. Выразна падкрэслівае дабро і зло, любоў і нянавісць, а таксама выразна павучалася: за злачынства будзе кара.

У баладзе – своеасаблівы герой, малодшы сямейнік альбо бяспраўны чалавек, які шмат церпіць, але і шмат вытрымлівае; калі нават гіне, то і гэта ягоная маральная перамога. Расказ звычайна ідзе ад аўтара няспешна, без лішніх тлумачэнняў, але з пэўным падсумаваннем. Вялікая роля адводзіцца дыялогу, у кампазіцыі – паўтору з нарастаннем напружанасці, развязкі. У беларускіх баладах нямала сюжэтаў міфалагічнага ўяўлення, з пераўтварэннем чалавека ў расліны і дрэвы, звяроў і птушак, з ужываннем прарочых сноў, праклёнаў, веры ў чарадзейную сілу. Іх, такіх сюжэтаў, у нас больш, чым у нашых суседзяў. Гэта – «браткі», «дачка-птушка», «свякруха» заклінае нявестку ў рабіну, «маці» заклінае сына ў явар, «муж абярнуўся Дунайчыкам». Да іх блізкія казачныя балады, дзе побач з людзьмі дзейнічаюць розныя паганыя і добрыя звяры, птушкі, сілы прыроды, фантастычныя персанажы (воўк, вецер, цмок). Ёсць балады са змяшчэннем загадак, з гульнёва-карагодным назначэннем. У большасці балад – апавяданні пра канфлікты, у аснове якіх парушэнне звычаёвага права і маральных норм (нялюдскасць паміж мужам і жонкаю, паміж братам і сястрою); ёсць тут і апрацоўкі антычных сюжэтаў, дзе часамі адлюстроўвалася барацьба народа з замежнымі захопнікамі, гораснае апяванне той долі, што дасталася трапленым у палон. У беларускім фальклоры нашы вучоныя налічылі каля 140 сюжэтаў.

Бытаванне балад, іх змест на Беларусі былі розныя. Найбольш часта сустракаюцца сюжэты пра дачку-птушку. Нямала іх і пра лёс нявесткі, пра маладых Яго і Яе, пра ўкрадзеных казакамі (не вельмі любілі іх у нас) маладых дзяўчат, пра жонак-няўдаліц. Ёсць літаральна адзінкавыя балады пра рэдкія жыццёвыя выпадкі: брат сватаецца да сястры ці брат хоча забіць сястру. Шмат балад спявалася ў пост, калі няможна было спяваць вясёлыя песні. Нямала беларускіх балад супадае па сюжэце, маралі з суседнімі – з украінскімі, літоўскімі, рускімі, польскімі, славацкімі (што само па сабе зразумела). А матывы – скажам, што на магілах загубленых закаханых вырастаюць дрэвы і пераплятаюцца – ёсць амаль ва ўсіх еўрапейскіх народаў. Як і ў іншых, так і ў беларускіх баладах улічваліся календарныя і сямейна-абрадавыя песні, розныя мелодыі, рытміка, кампазіцыйныя пабудовы, а выкананне пераважна аднагалоснае: расказ вядзецца ж ад адной пэўнай асобы;

2. У літаратуры – твор ліра-эпічнага зместу на легендарна-гістарычныя альбо казачна-міфічныя тэмы. У ім – эмацыянальны расказ, асабліваe паэтычнае падкрэсліванне дабра і зла, прыўзнёсласць, шырокае выкарыстанне фальклорных прыёмаў, лексікі. Адна з першых у літаратуры балад засведчылася ў XIX стагоддзі на аснове народнай паэзіі («Нячысцік» А. Рыпінскага, «Травіца брат-сястрыца» В. Дуніна-Марцінкевіча, «Хівец і скарб на святога Яна» Ф. Багушэвіча), у творах Я. Купалы («Забытая карчма», «Братка і сястрыца», а таксама і ў паэмах баладнага тыпу «Бандароўна», «Курган»), Я. Коласа («Няшчасная маці»), М. Багдановіча («Страцім-лебедзь»). Выкарыстоўваючы народныя паданні, жанр балады паднялі на высокі літаратурны ўзровень. Пазней гэты жанр ужывалі П. Трус, П. Броўка, А. Куляшоў, М. Танк, П. Панчанка і інш. Вялікая Айчынная вайна з яе жорсткасцю, трагедыямі, пакутамі, смерцю, мужнасцю і гераізмам ажывіла жанр балады, і многія з іх, створаныя ў той час, сталі шырока вядомымі. Не пакідалі жанр убаку паэты і пасля вайны – як вышэй ужо названыя, так і А. Пысін, А. Русецкі, Н. Гілевіч, Р. Барадулін, А. Вярцінскі, Я. Янішчыц, В. Коўтун. На гістарычныя тэмы шэраг бліскучых балад напісалі Ул. Караткевіч, Я. Сіпакоў (цэлую кнігу па матывах балад усіх славянскіх народаў), В. Іпатава.

3. У музыцы – творы ліра-эпічнага альбо эпіка-гераічнага характару. Былі, ёсць розныя іх тыпы: у эпоху Адраджэння – вакальныя паліфанічныя (Гільём дэ Машэ), у эпоху рамантызму – сольныя вакальныя (Ф. Шуберт, І. Брамс) і інструментальныя (найперш Ф. Шапэн, які спалучыў лірызм, карцінную маляўнічасць са скразным драматычным развіццём).

У беларускай музыцы тэрмін ужываецца даволі шырока адносна вельмі розных паводле выканальніцкага складу і будовы твораў і ўказвае хутчэй на характар зместу, чым на наяўнасць пэўных музычна-стылістычных рыс; нярэдка ён спалучаецца з іншым жанравым вызначэннем (сімфонія-Б., канцэрт-Б.). У музычных баладах ярка праявіліся гераічныя матывы («У суровыя дні» М. Аладава, «Помнік» Я. Цікоцкага, «Шумелі бярозы» А. Багатырова, «Балада пра чатырох заложнікаў» на словы А. Куляшова П. Падкавырава, «Альпійская сімфонія-балада» Я. Глебава, «Балада пра салдацкае сэрца» і цыкл песень для салістаў і хору І. Лучанка і інш.).

Беларускія балады неаднаразова выдаваліся ў асобных зборніках, выйшлі асобным вялікім томам у серыі «Беларуская народная творчасць».

*Наступны нумар выйдзе 8 лістапада 2004 г.*

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Рэгістрацыйнае пасведчанне № 2019 ад 19. 03. 2003 г.
Заснавальнікі: грамадскае аб'яднанне «Беларускі фонд культуры», вытворчае прыватнае унітарнае прадпрыемства «Светач», Гілеп Уладзімір Аляксандравіч.

Краязнаўчая газета
Індэкс індывідуальнай падпіскі – 63320
ведамаснай – 633202

Галоўны рэдактар – Уладзімір ГІЛЕП
Нам. галоўнага рэдактара Генрых ДАЛІДОВІЧ.
Адказны сакратар Уладзімір Пучынскі.
Рэдкалегія: Анатоль Бутэвіч, Андрэй Вірчак, Анатоль Грыцкевіч, Алесь Карлюкевіч, Лідзія Кулажанка, Адам Мальдзіс, Вячаслаў Рагойша, Віталь Скалабан, Віктар Хурсік.

Наш адрас: 220029, г. Мінск, вул. Камунальная набярэжная, 6. Тэл. 283 28 26. E-mail: kraga@tut.by



Падпісана да друку: 21.10. 2004.
Газета надрукавана ў друкарні УП «Светач»: 220030, г. Мінск, вул. Першамайская, 7. (Ліцэнзія ЛП № 02330 ад 27. 02. 2004 г.)
Заказ 1760.
Тыраж 1150.